# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 14 чэрвеня 1994 года | № 62 (10762) | Цана 100 руб.

ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

## ЛЯ ВЫТОКАЎ БУДЗЕ ВЕЧНА МАЛАДЗЕЧНА

Песняй, што нарадзілася ў памяць аб фестывальных днях, завяршылася гэтае свята. Удзельнікам яго быў, напэўна, увесь горад. Безумоўна, як пісала адна беларуская газета, гэта не Кан і не Юрмала... Гэта проста Маладзечна, няхай сабе не дасягнуўшы еўрапейскага ўзроўню. Адбыўся фестываль, які, безумоўна, стане традыцыйным. Штогод будуць збірацца ў Маладзечне аматары беларускай песні. Штогод гэты невялікі беларускі горад, які сёння язык не павернецца называць правінцыяй, будзе згуртоўваць вакол сябе тых, каму дарагія родная мова, нацыянальнае мастацтва.

Аб гэтым гаварылі на адкрыцці фестывалю яго госці: пісьменнік, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Ніл Гілевіч, міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч. Бургамістр нямецкага горада-партнёра Эслінгена Ота Баўэр пажадаў поспеху ўсім удзельнікам фестывалю і выказаў захапленне цёплым прыёмам, які ўжо не ўпершыню аказваюць маладзечанцы сваім нямецкім сябрам.

— Мы шукаем свой шлях у палітыцы, эканоміцы, мастацтве, — сказаў старшыня аргкамітэта фестывалю, старшыня Маладзечанскага гарвыканкома Генадзь Карпенка. — Фестываль — адзін з этапаў гэтага пошуку.

Віктар Вуячыч, Юрый Антонаў, Ядвіга Паплаўская, Аляксандр Ціхановіч — гэтыя імёны добра вядомыя беларускаму гледачу. У іх выкананні прагучалі песні на адкрыцці фестывальнай праграмы.

На Гран-пры прэтэндавалі 14 выканаўцаў ва ўзросце ад 15 да 20 год. Журы, якое ўзначальваў народны артыст рэспублікі Віктар Вуячыч, аддало перавагу магіляўчанцы Наталлі Кудрынай. Важкім дапаўненнем да заваяванага ёю Гран-пры стаў аўтамабіль «Жыгулі» дзевятай мадэлі. На ім шчаслівая ўладальніца зрабіла «ганаровы аб'езд" па бегавой дарожцы стадыёна. Менавіта тут праходзіў заключны канцэрт і ўшаноўваліся пераможцы.

Больш дзесятка фірм сталі спонсарамі фестывалю „Маладзечна-94". У ліку іх — „Дайнова", «Фарада», банк «Беларусь»... Аўтамабіль — прыз фірмы «Нов і К».

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

## ХТО ВЫРАТУЕ ДЗЯЦЕЙ?

Якімі ідуць нашы дзеці ў заўтрашні дзень? Кожнае пятае з іх жыве ў чарнобыльскай зоне, кожнае шостае хранічна хворае. У чатырох з шасці абласцей смяротнасць дзяцей перавышае нараджальнасць. Расце колькасць дзяцей-сірот, інвалідаў, бадзяг, злачынцаў, разумова і фізічна адсталых. Пачалося разбурэнне, знішчэнне дзіцячых садкоў, школ, летнікаў. Камерцыйныя структуры выштурхоўваюць на вуліцу дзіцячыя студыі, гурткі. Не будуюцца новыя дзіцячыя санаторыі, фабрыкі дзіцячага харчавання. З-за платнай адукацыі многія дзеці не могуць працягваць вучобу. Расце беспрацоўе сярод выпускнікоў школ, вучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ. Дзеці губляюць надзею. Ці можам мы ў такім стане рухацца ў цывілізаваны свет?

Набліжаюцца выбары першага Прэзідэнта рэспублікі. Аднак ні адзін прэтэндэнт на прэзідэнцкае крэсла не абнародаваў сваю праграму ратавання дзяцей.

Час вымагае, каб у рэспубліцы была створана самая стратэгічная дзяржаўная структура — Міністэрства па правах дзяцей. Наспела патрэба мець у Беларусі Дзіцячы камерцыйны банк, нацыянальны Дзіцячы парк. Патрэбна прыняць Закон аб дабрачыннасці, каб людзям стала выгадна дапамагаць бедным, абяздоленым, пакрыўджаным лёсам дзецям.

Хочацца верыць, што першы Прэзідэнт Беларусі будзе добрым і спагадлівым бацькам для нашых дзяцей. Давайце помніць: дзеці — наша будучыня, дзеці — багацце рэспублікі. Дык дапаможам ім сёння!

Трывога за лёс будучага пакалення выказана ў звароце да выбаршчыкаў, які падпісалі прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, лаўрэат прэміі БДФ, паэт Васіль Вітка, галоўны ўрач Цэнтра радыяцыйнай абароны дзяцей Валерый Ржэуцкі і інш.

*/Наш кар./.*

## ПАРА МАЛАДОСЦІ

118-ю гадавіну свайго існавання адзначыў Мар"інагорскі саўгас-тэхнікум імя У.Е.Лабанка.

На свята з"ехаліся госці — выпускнікі розных гадоў.

Тут шмат што змянілася: выраслі новыя карпусы, калектыў папоўніўся маладымі выкладчыкамі. Маецца і ўласная вытворчасць. Былыя выпускнікі з прыемнасцю даведаліся, што і сённяшнія студэнты тэарэтычныя веды актыўна замацоўваюць практычнымі справамі, ахвотна працуюць у полі і на ферме. Якасна і хутка былі праведзены тут пасяўныя работы. На саўгаснай тэрыторыі засеяненюць 110 гектараў бульбы, 400 — збожжавых, 30 — грэчкі, 50 — ільну, 45 — караняплодаў, 150 — кукурузы, 10 — агародніны.

Павысіліся надоі на малочнатаварнай ферме «Навасёлкі». Перадавыя даяркі працуюць і на МТФ «Міхайлава». А лепшыя вынікі паказвае загадчык гэтай фермы Юрый Чыжоў. Дзякуючы намаганням намесніка дырэктара Л.М.Свеніч, загадчыкаў аддзяленняў А.М.Кандратовіча, А.А.Капскага, выкладчыка У.Т.Грыба і іншых студэнты набываюць трывалыя веды па вядзенню сельскай гаспадаркі.

* * *

Доўга не сціхалі песні на стадыёне. А затым разгарнуліся спартыўныя спаборніцтвы. Людзі не разыходзіліся — радаваліся яснаму веснавому дню, сустрэчы з аднакурснікамі. Як адзначыў дырэктар саўгаса-тэхнікума Валянцін Андрэевіч Свірыдаў, 118 гадоў — пара маладосці.

*Аліна ГРЫШКЕВІЧ.*
*г. Мар"іна Горка.*

## УЗЯЛІСЯ ЗА СВЯТУЮ СПРАВУ

За апошнія гады ў Валожынскім раёне створана нямала малых прадпрыемстваў. Аднак тое, што заснавана ў Кіяўцы, не мае пакуль што канкурэнтаў, яно адзінае ў раёне па характару сваёй дзейнасці.

Энтузіястам яго стварэння стаў Валерый Гомель. Ён з"яўляецца старшынёй прыходскага савета, настаяцелем Свята-Петра-Паўлаўскай царквы ў вёсцы Кіявец.

Прадпрыемству дадзена незвычайная назва «Рэпіда». Займацца яно будзе гуманнай справай, поўнай духоўных памкненняў. Сваім першачарговым клопатам рэпідаўцы лічаць аднаўленне кіявецкай царквы, якая спазнала занядбанне ў часы росквіту антырэлігійнай прапаганды. Мяркуецца, што праз месяц званы Свята-Петра-Паўлаўскай царквы ўрачыста абвесцяць аб яе другім нараджэнні. Чакаецца прыезд у гэты дзень мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі.

Статутны фонд першага царкоўнага прадпрыемства невялікі — 900 тысяч рублёў. Для правядзення рамонту храма загадзя было закуплена неабходнае абсталяванне, заключаны кантракты.

У планах малога прадпрыемства «Рэпіда» — аказанне дапамогі дзіцячым дамам і прытулкам, падтрымка інвалідаў і маламаёмных. Сваім клопатам лічаць рэпідаўцы і прапанаванне паслуг відэапракату духоўнага зместу.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

■ Фотарэпартаж

# СПАДЗЕЮЧЫСЯ НА СВАЕ СІЛЫ,

### упэўнена трымаецца на плаве ў моры рыначнай стыхіі калектыў саўгаса-аграфірмы «Стара-Барысаў»

***Незвычайна мнагалюдна было ў мінулую суботу ў скверыку цэнтральнай сядзібы саўгаса-аграфірмы "Стара-Барысаў". Ціхі спакой яго векавых дрэў быў парушаны гарэзлівым шчабятаннем дзятвы і разважліва-памяркоўнай гаманой дарослых, вясёлымі мелодыямі эстрадных песень і медным звонам труб духавога аркестра. З самай раніцы там ішоў бойкі гандаль свежай гароднінай, кулінарнымі і кандытарскімі вырабамі, прамысловымі таварамі. А апоўдні на імправізаванай сцэне пачаліся ўрачыстасці з нагоды 75-й гадавіны ўтварэння мясцовай гаспадаркі.***





*На здымках: цяплічны камбінат саўгаса-аграфірмы "Стара-Барысаў"; вясёлы настрой у выхаванцаў саўгаснага дзіцячага садзіка "Пралеска"; начальнік цяплічнага камбіната Раіса **Самцова** (у цэнтры) з цяплічніцамі Анжэлай **Новік**, Зояй **Стаін** і Марыяй **Марковіч**.*

Дырэктар саўгаса Георгій Іванавіч Куляшоў напачатку нагадаў некаторыя факты з гісторыі развіцця калектыўнай гаспадаркі, а пасля расказаў аб сённяшніх жыццёвых клопатах і праблемах калектыву, які нават у такіх складаных умовах эканамічнага бязладдзя і хаосу ўпэўнена трымаецца на плаве ў моры рыначнай стыхіі. Пры гэтым, заўважым, кіраўнік гаспадаркі не стаў, як гэта часта бывае, пералічваць вытворча-эканамічныя паказчыкі, якія, несумненна, заслугоўваюць увагі, аб чым мы скажам ніжэй, а з удзячнасцю называў прозвішчы перадавых рабочых, лепшых спецыялістаў і кіраўнікоў вытворчых падраздзяленняў, дзякуючы старанньй, самаадданай працы якіх і дасягаюцца поспехі калектыву.

Многіх прысутных і гасцей свята прыемна ўразіў прыведзены Георгіем Іванавічам прыклад. За апошняе пяцігоддзе сярэдні ўзрост працаўнікоў гаспадаркі "памаладзеў" з 40 да 35 гадоў. А саўгасныя жывёлаводы "амаладзіліся" за гэты ж час больш чым на дзесяць год. Гэта сведчыць аб тым, што калектыў мае добрую перспектыву і можа з аптымізмам глядзець у будучыню.

Шчыра і цёпла віталі юбіляраў намеснік старшыні аблвыканкома, старшыня абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання Анатоль Міхайлавіч Жук, старшыня "Мінскплодаагароднінагаса" Віктар Рыгоравіч Казека, старшыня Барысаўскага райвыканкома Георгій Уладзіміравіч Кіберман, начальнік райсельгасупраўлення Леанід Мечыслававіч Сцяфанскі, былыя дырэктары саўгаса Ганна Казіміраўна Вяржбіцкая і Уладзімір Аляксандравіч Патапенка, кіраўнікі суседніх гаспадарак і шэфствуючых арганізацый.

Лепшым працаўнікам гаспадаркі ва ўрачыстай абстаноўцы былі ўручаны Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, абласнога камітэта і раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, граматы саўгаса-аграфірмы, грашовыя прэміі. Мясцовыя самадзейныя артысты, у ліку якіх былі і выхаванцы саўгаснага дзіцячага садзіка, педагогі мясцовай сярэдняй школы, рабочыя і спецыялісты гаспадаркі паказалі цікавую канцэртную праграму. І хаця надвор'е ў той дзень было пахмурнае, а часам нават накрапваў дробны дождж, гэта не азмрочыла добрага настрою прысутных. Пасля завяршэння канцэрта там жа, у скверыку, пад гукі духавога аркестра пачаліся танцы. Выходзіць, старабарысаўцы ўмеюць не толькі добра працаваць, а і адпачываюць цікава і змястоўна.

### Ад узорнай савецкай...

Саўгас "Стара-Барысаў" з'яўляецца адной са старэйшых гаспадарак не толькі на Барысаўшчыне, а і ў вобласці, нават у рэспубліцы. Яго роданачальнікам была ўзорная Савецкая гаспадарка, створаная ў Стара-Барысаўскім маёнтку ў маі 1919 года. Газета "Известия" Барысаўскага павятовага Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў у №126 ад 27 мая 1919 года паведамляла:

"В Старо-Борисовском имении Минской губернии, принадлежавшем царскому отпрыску — Николаю Николаевичу — оборудовано образцовое Советское хозяйство. В нем для обслуживания нужд населения имеется племенной случной пункт, бесплатная лечебница для животных, кузница, сельскохозяйственный склад. Предполагается устройство рассадника птиц и кроликов".

Вось на такой матэрыяльна-тэхнічнай базе і пачала сваё развіццё 75 год таму назад гаспадарка, прызначаная забяспечваць працоўных горада гароднінай, бульбай, садавінай, малаком і мясам. Адначасова пачынаючы з 1919 года на базе гаспадаркі дзейнічала школа сялянскай моладзі.

**/Заканчэнне на 3-й стар./**

## НА ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ

Заўтра сто пасланцоў Міншчыны адправяцца на Першы міжнародны фестываль фальклору ў Пінск, які будзе праводзіцца да 21 чэрвеня. Хто ж тыя шчаслівчыкі? Што яны пакажуць людзям свету? На гэтыя пытанні нашаму карэспандэнту адказвае дырэктар абласнога цэнтра народнай творчасці **С.С.Іванова.**

— Фестываль заклікасодзены паказаць багацце, унікальнасць і разнастайнасць беларускай народнай традыцыйнай культуры. Яго правядзенне ў перыяд станаўлення незалежнай Беларусі паспрыяе абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці, адраджэнню гістарычнай і культурнай спадчыны. Міншчына, як і іншыя рэгіёны рэспублікі, мае унікальны фальклор, які дагэтуль бытуе ў жыцці. Гэта наш неацэнны скарб.

Бадай, адна з самых песенных вёсак — Морач, што на Клеччыне. Яе спявачак з іншымі не пераблытаеш. Больш за ўсё любяць спяваць у Морачы лірычныя шматгалосыя песні, але за апошні час аднавілі і старажытныя — каляндарныя, вясельныя. Мастацкім кіраўніком самадзейных артыстаў гэтай вёскі з"яўляецца Яўгенія Піліпеня. Багатую праграму павязуць у Пінск морацкія спявачкі.

Цікавы пласт традыцыйнай культуры захаваўся і ў невялікай вёсачцы Раеўшчына Маладзечанскага раёна. Яе фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Крынічанька" заваяваў права прадэманстраваць сваё майстэрства перад удзельнікамі Першага міжнароднага фестывалю фальклору.

Прыцягвае ўвагу даследчыкаў, навукоўцаў фальклорны ансамбль "Вытокі" з вёскі Сосны Любанскага раёна. Удзельнікі яго — у асноўным людзі пажылога ўзросту. Прыемна, што ў апошні час да іх далучаюцца маладзейшыя спевакі і танцоры. Верыцца, што ўдзельнікі гэтага калектыву — надзейныя носьбіты і захавальнікі мясцовых пеўчых, танцавальных, этнаграфічных традыцый.

Едуць на фестываль калектывы "Калыханка" з Мінскага, "Ячаўскія вячоркі" Слуцкага, "Раніца" Старадарожскага і "Спадчына" Дзяржынскага раёнаў.

А цяпер пра тых, хто прыедзе з краін блізкага і далёкага замежжа. Запрошаны калектывы з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Балгарыі, Чэхіі, Славакіі, Галандыі, Грэцыі, Італіі, Францыі, Германіі, Іспаніі, ЗША і інш.

*Уладзімір КОБРЫН.*

Заканчваецца падпіска на

**"Мінскую праўду"**

на трэці квартал 1994 года

**Падпісная цана — 6000 рублёў.**

Прэзідэнцкі марафон

## ПА СУМЛЕННЮ І АБАВЯЗКУ

11 чэрвеня мне давялося ехаць электрацягніком Мінск—Орша. Пасажыраў было шмат. На кожнай станцыі адны выходзілі, другія — заходзілі ў вагон, едучы на дачу, да родзічаў, па іншых справах.

На прыпынку ў Жодзіне ў наш вагон зайшла жанчына гадоў пад сорак і раздала жадаючым лістоўкі з праграмай кандыдата ў Прэзідэнты Беларусі Зянона Пазняка, яго зваротам да жанчын. І літаральна праз некалькі мінут зайшла гаворка аб прэтэндэнтах на высокую дзяржаўную пасаду. Юнак, які сядзеў непадалёку ад мяне, пачаў агітаваць за Зянона Пазняка, падкрэсліваючы, што гэта найбольш удалая кандыдатура.

— Ён зможа адстаяць нашы інтарэсы, ніколі і нічога не краў, не звязаны з мафіяй, як тыя, хто займае высокія пасады, — горача даказваў юнак. — Буду галасаваць толькі за Пазняка.

Бабуля, якая дагэтуль штосьці расказвала сваёй унучцы (узрост жанчыны быў сталы, а таму такой думкі прытрымліваюся і я. — Аўт.), выказала ў некалькіх словах свой погляд:

— За Пазняка галасаваць не буду. У яго няма дзяцей і ўнукаў. Хіба такі чалавек будзе дбаць аб людзях?!

— А я наогул не пайду галасаваць, — зазначыла мая суседка. — Лепш паеду на дачу, скарыстаю выхадны дзень для праполкі град. Аб тым, каб накарміць нас, ніхто з начальства не думае. Вунь якія цэны ў магазінах. Без зямлі не пражывеш...

— Кожны вольны рабіць так, як хоча, — уключыўся ў палеміку пасажыр, якога сусед з павагай называў «Іванавіч»:

— Галасаваць кожнаму трэба абавязкова. Мы ж фактычна вырашаем лёс нашай рэспублікі. А Прэзідэнт — гэта, калі хочаце, бацька. Куды павядзе нас, туды і пойдзем. Таму і выбраць трэба талковага, хто зможа паклапаціцца аб нашым дабрабыце. Думаю, больш шанцаў стаць Прэзідэнтам у Кебіча і Новікава. У іх добрыя праграмы, яны прапаноўваюць канкрэтныя меры выхаду з крызісу, у якім апынулася рэспубліка...

Цягнік спыніўся на чарговай станцыі. Размова, якая пачалася нечакана, нечакана і скончылася. А мне падумалася, што ў словах «Іванавіча» ёсць логіка. Ён не агітуе за таго або іншага кандыдата ў Прэзідэнты, хаця і не хавае сваіх сімпатый, а раіць кожнаму з нас паразважаць, ацаніць сітуацыю. Першы Прэзідэнт Беларусі павінен быць паважаным чалавекам, гібкім палітыкам. І выбіраць яго трэба, кіруючыся ў час галасавання сваім сумленнем і абавязкам.

*Мікалай МАЦВЕЕЎ.*

## Чыё прозвішча застанецца ў спісе?

***У калаўроце сённяшніх праблем выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь як бы адышлі на задні план. Асабістыя, а не дзяржаўныя клопаты займаюць нас. І ўсё ж, па меры набліжэння дня выбараў — 23 чэрвеня, многія ўсё часцей і часцей задумваюцца: за каго аддаць свой голас? Аб гэтым — міні-інтэрв'ю, якія ўзяў наш карэспандэнт у розных людзей.***

**Л.Азараў, ваеннаслужачы:** Я цвёрда вырашыў галасаваць за Лукашэнку. Ён, на маю думку, адзіны, хто можа супрацьстаяць чыноўніцкай мафіі і карупцыі. Не ліквідаваўшы гэтыя заганныя сацыяльныя з'явы, мы не зможам жыць па-чалавечы.

**М.Адзінцова, пенсіянерка**: Уся наша сям'я — а гэта чатыры дарослыя чалавекі — адназначна галасуем за Кебіча. Мы з мужам родам з Расіі. Прыехалі ў Беларусь пасля вайны. Працавалі на трактарным, аўтамабільным заводах. Падтрымліваем Кебіча таму, што ён выступае за саюз з Расіяй. Без такога саюза, на нашу думку, эканоміка рэспублікі не зможа ўстаць з каленяў, быць па-сапраўднаму самастойнай і суверэннай.

**А.Капцоў, інжынер:** Я яшчэ дакладна не вырашыў, чыё прозвішча пакіну ў спісе кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду, але, пазнаёміўшыся з іх перадвыбарнымі праграмамі, прыйшоў да думкі, што хутчэй за ўсё, відаць, буду галасаваць за Пазняка. Чаму? Ён цвёрда стаіць на пазіцыях нацыянальнага адраджэння. А без гэтага мы не зможам «людзьмі звацца». Мне здаецца, толькі Пазняк, будучы Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, здолее скарыстаць дадзены лёсам нашай рэспубліцы шанц стаць самастойнымі.

**П.Прышчэпа, рабочы:** Я палітыкай не займаюся. Для мяне ўся «палітыка», калі цёпла ў кватэры, танныя прадукты ў магазінах і добрая зарплата. Усё гэта на сёння «трымае» ў руках Кебіч. За яго і прагаласую.

**Л.Дубко, настаўнік:** Дзень 23 чэрвеня правяду на сваёй дачы. Там ужо выраслі нядрэнныя агурочкі, памідоры. Работы хопіць. Што тычыцца выбараў, то ўсё гэта, на мой погляд, вялікае шоу. Не прэзідэнт дае шчаслівую долю народу, а сам народ яе здабывае. Сваёй упартай, чэснай працай. Нам сёння якраз і трэба закасваць рукавы і працаваць да сёмага поту, а не бегчы хутчэй выбіраць Прэзідэнта.

**Т.Драздова, студэнтка:** Мне ўсё роўна, хто стане Прэзідэнтам. Галоўнае, каб быў наведзены ў рэспубліцы парадак. Каб моладзь была ўпэўнена ў сваім будучым. Мела гарантаваную працу. А калі гаварыць канкрэтна па кандыдатурах, то я гатова падтрымаць Шушкевіча. Мне імпануе яго інтэлігентнасць. І як палітык, дзяржаўны дзеяч, ён, я лічу, яшчэ не раскрыўся.

*Запісаў Мікалай ЖУЧКО.*




## НЕ ХАПАЕ ДЫЯФІЛЬМАЎ. І НЕ ІХ АДНЫХ

Працую настаўніцай пачатковых класаў Нясвіжскай гімназіі. У нас дружны педагагічны калектыў. Большасць маіх калег — людзі творчыя, ініцыятыўныя. Мне, маладому спецыялісту, ёсць чаму павучыцца.

Сумна было развітвацца з маімі чацвёртакласнікамі. У наступным навучальным годзе буду сустракаць новы першы клас. І вось аб чым сёння думаю: безліч праблем, вялікіх і малых, чакае настаўніка на кожным кроку. Напрыклад, тэхнічныя сродкі значна адстаюць ад навучальных праграм. Хто пра гэта паклапоціцца? Хацелася б, каб было больш дыяфільмаў, слайдаў, дыяпазітываў: тады вучыцца нашым дзецям стане лягчэй і цікавей.

Хвалюе і тое, што вельмі дорага каштуюць школьная форма, вучнёўскія прылады. Для многіх сем"яў гэта — вострая праблема.

А вазьміце сам будынак нашай гімназіі. Ён узводзіўся яшчэ "за польскім часам". Сёння ў ім цесна. Урокі вядуцца ў дзве змены, няма актавай залы. Узнікаюць цяжкасці з арганізацыяй работы гурткоў. Праўда, у апошнія гады нешта робіцца, каб "расшырыцца" — узвесці прыбудову. Складзены праект, але справа рухаецца марудна.

Улетку ў гімназіі працуюць аздараўленчыя пляцоўкі. Мы зробім усё, каб вучні набраліся сіл, добра адпачылі. Хочацца, каб у школьнай сталовай было больш высокакаларыйных і смачных страў. Абнадзейвае, што наш аддзел адукацыі выдзеліў значныя сродкі для харчавання дзяцей. Важна, каб усе яны пайшлі па прызначэнню.

*Ірына Яшчанка. г.Нясвіж.*

## НІБЫ АНГЛІЙСКАЯ КАРАЛЕВА

*Спатрэбілася абавязкова быць у нядзелю на юбілеі ў мінскіх сяброў. Вырашылі ехаць у суботу. Заплацілі з мужам на дваіх каля сарака тысяч. І селі ў аўтобус "Капаткевічы—Мінск".*

*На здзіўленне, у прасторным "Ікарусе", акрамя нас дваіх, не было ніводнага пасажыра. Зайшлі два вадзіцелі. І аўтобус узяў кірунак на сталіцу.*

*Ехала я, нібы англійская каралева з мужам. Але шыкоўнасць гэтая не прыносіла ні кроплі задавальнення. Зусім наадварот. Нашы грошы, вядома, кампенсавалі нязначную частку расходаў, якія пайшлі на гэты рэйс.*

*Упэўнена: калі б цэны на білеты не былі такія "куслівыя", дык салон "Ікаруса" быў бы значна паўнейшы. Аўтатранспартнікі мелі б большую выручку, людзі без клопатаў вырашалі свае праблемы. Калі так будзе працягвацца і надалей, то ці не ператворацца аўтобусы нашы ў сродак перамяшчэння для адных толькі камандзіраваных асоб, калі дзяржаўныя грошы проста перакладваюцца з адной кішэні ў другую?*

*Валянціна ПРАКАПОВІЧ. г.Салігорск.*

## А МНЕ НЕ ВЕРИТСЯ

Прочитал в вашей газете за 24 мая этого года заметку "Как живешь, ветеран?". Мне просто не верится, что есть депутаты и работники райисполкома, которые посещают инвалидов и участников войны, интересуются их жизнью, оказывают помощь. Если действительно есть, то низкий им поклон.

У нас тоже ежегодно, перед Днем Победы, оказывают помощь. Ходит зав.клуба и спрашивает, кто в чем нуждается. Вот и вся помощь. А в этом году лично меня никто ни о чем и не спрашивал. Хотя я — тоже участник войны, инвалид второй группы, дважды ранен, контужен. Имею боевые и трудовые награды, грамоты, благодарности. За 45 лет работы не совершил ни одного прогула. После выхода на пенсию пять лет во время посевной и уборки зерна помогал колхозу. А теперь вот даже сахар не дают, хоть и за деньги. Говорят, мол, не колхозный пенсионер. Зато жена — колхозный пенсионер.

Еще случай. В феврале выписали трактор для доставки торфобрикета. Его до сих пор не привезли. Нужна своя солярка, а где ее взять?

Получилось так, что я живу во времянке. В ней зимой холодно / плюс четырнадцать/. Не дают покоя мыши и крысы : они очень действуют на нервы. Необходим ремонт, а значит — стройматериалы. Купить их мне не по карману. Обращался в разные инстанции: везде отрицательный ответ.

Наверное, сегодня только на немцев вся наша надежда! Видел в одной из газет снимок, где они бросают в шляпу марки для нас. Думаю написать письмо Кебичу или Грибу, но, по-видимому, это тоже бесполезно.

Осталось уже недолго нам, участникам войны, просить помощи. Лет пять-шесть, не больше. А, может, как-нибудь доживу до "светлых дней"?! В землянках и окопах в войну было холодней. И то выжили. Правда, не все. Им, мертвым, хоть цветы дарят. А нам, живым?

В этом году празднование Дня Победы прошло в Слуцке очень обыденно. Ветеранам почти не дарили цветов. Раньше это делали пионеры. Сейчас их нет.

Жаль, что на смену участникам Великой Отечественной к руководству на всех участках пришла молодежь, которая часто не верит, что была священная война. В это верит лишь тот, кто пережил ее ужасы сам. Скажем, сколько по телевизору ни говори, что "сникерс" вкусен, не поверишь, пока не попробуешь.

Так что лично я не всегда верю тому, что пишут в газетах и говорят по радио о заботе и внимании к ветеранам. Конечно, мир не без добрых людей. Есть, наверное, и душевные руководители. А так в основном помощь остается на бумаге.

Извините, если что-то не так: писал про то, что наболело на душе.

*Александр Копко. д. Василинки Слуцкого района.*

## ПОКИВАЕМ НА ИВАНА ДА ПЕТРА?

Как-то "Мінская праўда" рассказала о случае: в автобусе, по пути на работу, избиратели заспорили — кто победит на президентских выборах? Закончился спор потасовкой.

В истории народов такое уже бывало. В Англии, скажем, имело место стихийное движение, направленное на борьбу с машинами, хоть и не в них была главная причина. Помните?

В наше время, когда многочисленные партии выступают с различными программами и требованиями, давая нередко туманные обещания, велика вероятность запутаться, совершить необдуманный поступок. Поэтому, думаю, важно во всем разобраться именно сейчас.

Президентские выборы — это не спортивные соревнования. На них можно пошуметь, поволноваться, но кардинально они повседневную жизнь, как правило, не меняют. От президентских выборов зависит будущее наше и наших детей, внуков.

Дело каждого — за кого он будет голосовать, но каждый должен помнить, что его голос может оказаться решающим в вопросе, кто окажется у власти.

Не раз приходилось слышать:"А я вообще не пойду на избирательный участок". По-моему, это грубейшая ошибка. Не стоит все-таки доверять решение собственной судьбы кому-то.

Думаю, лучше всего хорошенько разобраться в ситуации, изучить программы претендентов на президентское кресло, посоветоваться с близкими людьми. Нам предоставляется уникальная возможность решить свою судьбу не на баррикадах, как было раньше, а на избирательном участке. И следует эту возможность использовать. Иначе придется потом кивать на Ивана да Петра.

Пусть идет открытая, честная, цивилизованная политическая борьба, без обвинений и оскорблений /на что мы великие мастера/, пусть всем кандидатам будут предоставлены равные возможности, а народ все решает сам.

Главное чувство, которое, по-моему, присуще белорусам, — справедливость. Пусть она восторжествует.

*Иван ЛУЦКО, ветеран Великой Отечественной войны и труда. г.Минск.*

## ЧАМАДАН ДАБРА І ЧАМАДАН РОЗУМУ

Нямала я ўжо жыву на свеце — і пераканаўся: у розны час людзі жэняцца па-рознаму. Раней, напрыклад, на гэты крок ішлі тады, калі бацькі былі згодныя, калі было як жыць сваёй сям"ёй. Гаварылі таксама: "У жаніха павінны быць чамадан дабра і чамадан розуму". Або: "Перш чым выбраць нявесту, даведайся пра яе маму".

Да таго ж, у кожнай мясцовасці знаходзіўся свой паважаны чалавек, якога часта прасілі стаць сватам. Ён ведаў усё наваколле, людзей, іх характар, нораў. Акрамя такога, "афіцыйнага", сватаўства вельмі распаўсюджаным сярод моладзі было заляцанне. Сустракаліся юнак і дзяўчына і год, і два. А калі жаніліся, дык адносіны ў іх былі ўжо адладжаныя. Не падышлі адно аднаму — ніхто нікому нічога не павінен. Так было і на маёй радзіме — Уздзеншчыне.

Цяпер усё стала інакш. Павярнулася да горшага. Думаю, што вялікую шкоду сямейнаму жыццю наносіць дэманстрацыя па тэлебачанні, на кінаэкране розных "галышоў", грубага сексу. Яна б"е па самым важным: чысціні адносін, павазе да жанчыны!

*Станіслаў Шкадзінскі, педагог.*

## Весткі з Клеччыны

### БЫВАЙ, УКРАІНСКАЯ ЦЁТКА

Яшчэ некалькі гадоў назад у раён прыязджала шмат жанчын з Украіны. Яны вялі прарыўку і прапалку цукровых буракоў, нядрэнна зараблялі. Цяпер сувязі з украінцамі парваліся, ды і неабходнасць у дадатковай рабочай сіле адпала.

Сёлета на 1.000-гектарнай плошчы "салодкія карані" пасеяны нямецкімі сеялкамі дакладнага высеву, нямецкім дражджаваным насеннем. З"явіліся дружныя ўсходы. Міжрадкоўі чыстыя, роўныя, як пад лінейку. Як сказалі ва ўпраўленні райсельгасхарча, нават калі б і давялося весці ручную апрацоўку пасеваў, дык цяпер вясковыя кабеты самі "рвуць з рук" дзялянкі. Ведаюць, што восенню за гэта атрымаюць такі дэфіцытны сёння цукар. Летась многія сем"і зарабілі па 2—3 мяхі гэтай прадукцыі.

### БЕСПРАЦЭНТНЫ КРЭДЫТ — МОЛАДЗІ

Хто не ведае, як цяжка сёння маладым сем"ям без уласнага жылля. Чарга "афіцыйная" па сутнасці "трэснула". А за што купіць ложак, тэлевізар, шафу, халадзільнік?

Праўленне калгаса "Кастрычнік", каб не "згубіць" маладую рабочую сілу, вырашыла дапамагчы тым, хто хоча будаваць сабе дом. Выдаюць па 10—15 мільёнаў рублёў беспрацэнтнага крэдыту тэрмінам на 20 гадоў. Забудоўшчыкам дапамагаюць транспартам, будматэрыяламі. Ужо некалькі маладых сем"яў узяліся "віць сабе гнёзды".

Заўважым: кадраў вядучых прафесій у гаспадарцы хапае. Каб уладкавацца на працу, скажам, на жывёлагадоўчы комплекс, трэба прайсці спецыяльны конкурс.

### ДЫРЭКТАР НЕ "ЛЁГ НА КАНАПУ"

Даўно ведаю Леаніда Іосіфавіча Канявегу. Яшчэ ў шасцідзесятых гадах ён быў першапраходцам на будаўніцтве Сіняўскай мэблевай фабрыкі, пачынаў працаваць тут дырэктарам. З маленькай піларамы, прымітыўных цэхаў вырасла фабрыка да буйнога, тэхнічна аснашчанага прадпрыемства. Яе прадукцыю ведаюць далёка за межамі Беларусі. Больш трыццаці гадоў кіраваў калектывам былы франтавік, кавалер ордэнаў Перамогі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай Рэвалюцыі Л.І.Канявега.

Цяпер ён на заслужаным адпачынку. Але не "лёг на канапу", як іншыя пенсіянеры, не стаў "падкусваць" свайго пераемніка. Наадварот, Леанід Іосіфавіч лічыцца неафіцыйным кансультантам маладых інжынераў, тэхнолагаў. Яго парады, заўвагі, часам крытычныя, дапамагаюць мэбельшчыкам у выпуску якаснай прадукцыі.

Пабольш бы такіх пенсіянераў.

### "ЗАЛІЧЫЦЕ Ў КЛАС ДА МАЦЕЙКА"

У гэтыя дні многія гараджане, чые дзеці пойдуць восенню ў першы клас, просяць дырэктара СШ № 3, каб залічылі іх хлопчыка або дзяўчынку ў эксперыментальны клас да Валянціны Васільеўны Мацейка. Чаму менавіта гэтая настаўніца ім даспадобы?

У горадзе многія ведаюць, што В.В.Мацейка — вопытны педагог, чулы дзіцячы псіхолаг. Гэта яна тры гады назад узялася весці эксперыментальны клас (іх у вобласці адзінкі). Многае трэба было ўдасканальваць, "уціскаць" праграмы, "шліфаваць" методыку, каб павесці першакласнікаў у цудоўную краіну ведаў.

І вось вынік. За тры гады эксперыментальны клас (у ім 23 хлопчыкі і дзяўчынкі) цвёрда засвоіў праграму чацвёртага класа. Спецыяльная камісія з ліку вопытных педагогаў праверыла веды, зрабіла вывад: усе дзеці пераводзяцца ў пяты клас.

### ЗАШУМІЦЬ МАЛАДЫ ЛЕС

Бываючы ў Навінкоўскім лясніцтве, не раз заходзіў у гадавальнік, дзе вырошчваюцца саджанцы дубу, елкі, сасны... Тут адпрацавана дакладная тэхналогія, усе аперацыі выконваюць вопытныя лесаводы.

Цяпер лета, саджанцы набіраюць моц на дзялянках, куды высаджаны ў лепшыя агратэхнічныя тэрміны. І тут яны знаходзяцца пад пільным вокам леснікоў, работнікаў гадавальніка. Слабенькія або "не прыжытыя" раслінкі замяняюцца больш устойлівымі, мацнейшымі.

Сёлета малады лес закладзены на плошчы 53 гектары. Найбольш арганізавана справіліся з гэтай задачай у Галынкаўскім лясніцтве, якое ўзначальвае І.І.Зінчук.

### КАЎБАСА ЦІ "МАРСКІЯ КАМЕНЬЧЫКІ"?

Нялёгкія часы перажывае вытворча-харчовы завод. Недахоп грашовых сродкаў выбівае з каляіны. Нават за муку, каб выпякаць у дастатковай колькасці хлеб, часам няма чым разлічвацца. Не вельмі "хапаюць" пакупнікі клецкае піва, каўбасы, кандытарскія вырабы.

Дырэктар завода М.Муха разам са спецыялістамі шукаюць выйсце з цяжкага фінансавага становішча. Задача складаная: заводу не пералічаны своечасова за яго прадукцыю сотні мільёнаў рублёў. У сваю чаргу і завод не можа разлічвацца з пастаўшчыкамі сыравіны.

Нядаўна на прадпрыемстве асвоены выпуск цукерак "Марскія каменьчыкі" і дражэ "Полюшка". Наўрад ці ўдасца "залапіць" гэтымі "каменьчыкамі" дзіркі ў фінансавым партфелі завода. Хаця хто ведае. Часам і невялікі ручаёк бывае глыбакаводны.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## ГАЗ — ПАЛАЦАМ, вяскоўцам — паліць у печы

**Карыстанне газам для нас — справа звычайная. Ды і кошт яго пакуль што прымальны. Аднак цана на энергарэсурсы ў недалёкім будучым дасягне сусветных паказчыкаў, і не кожнаму спажыўцу прыродны і звадкаваны газ будуць даступныя. Ці пагражае нам, гаспадарам гарадскіх кватэр і дачных дамоў, "газавы дэфіцыт"? З гэтым і іншымі пытаннямі мы звярнуліся да начальніка аддзела капітальнага будаўніцтва і газіфікацыі вытворчага прадпрыемства "Мінскаблгаз" Валерыя КАЗУНКА:**

— У вобласці дзейнічае адладжаная сістэма забеспячэння спажыўцоў звадкаваным і прыродным газам, якая ўключае 35 размеркавальных станцый з адводамі ад магістральных газаправодаў Таржок-Мінск-Івацэвічы. Штогод па вобласці здавалася ў эксплуатацыю каля 200 кіламетраў газаправодаў. Узводзяцца яны рознымі падрадчыкамі. І наша прадпрыемства таксама займаецца іх будаўніцтвам, але ў вельмі сціплых маштабах. Летась у гарадах і пасёлках вобласці пабудавана 15,4 км сетак размеркавальных газаправодаў пры планавым заданні 12 км. Узводзім базы газавых гаспадарак у Жодзіне і Мядзелі. На завяршэнне апошняй неабходна 170 мільёнаў рублёў, якіх у нас няма. Работы пакуль прыпынены. Патрабуе значных сродкаў і Рудзенская кустовая база звадкаванага газу, якая была распачата ў канцы 1989 года саюзным Міністэрствам газавай прамысловасці. Пачаць — пачалі, а заканчваць даводзіцца ўласнымі сіламі. Пяць мільярдаў рублёў выдзеліў на гэтыя мэты канцэрн "Белпалівагаз" /у складзе якога "Мінскаблгаз"/ і столькі ж пералічана прадпрыемству па чарнобыльскай праграме. Мала таго што няма фінансаў, — перашкаджаюць цяжкасці пры ўзаемаразліках з расійскімі партнёрамі.Дагаворы заключаны, абсталяванне і кабель чакаюць адгрузкі, а пытанне аплаты так і не вырашана. Трэба ўжо сустракаць цыстэрны са звадкаваным газам, ды зноў няма чым за сыравіну расплаціцца. Вобласць вінная пастаўшчыку 22 мільярды расійскіх рублёў.

Канечне, можна спагнаць запазычанасць у сваіх даўжнікоў— шматлікіх прадпрыемстваў вобласці. Проста перакрыць засаўкі, спыніць падачу газу, пакуль не разлічацца. Аднак многія заводы, фабрыкі маюць на сваім балансе дзіцячыя сады, сталовыя, жылыя дамы. Людзі не вінаватыя ў няпростых эканамічных узаемаадносінах былых саюзных рэспублік.

**— Вяскоўцы карыстаюцца пераважна звадкаваным газам. Яго ж, як вы зазначылі, зараз няма. Застаецца зімой і летам паліць у печы...**

—Рэалізацыя насельніцтву звадкаванага газу з"яўляецца стратнай /продаж яго ўсяго за 20 працэнтаў ад рэальнага кошту/. Тым не менш, некаторыя спажыўцы адмаўляюцца набываць газавыя балоны з-за даволі высокай цаны. Будучыня — за прыродным газам. Прадпрыемства паспяхова спраўляецца з гадавымі заданнямі па пераводу кватэр, дзе карыстаюцца звадкаваным газам, на прыродны. Так, у мінулым годзе такіх кватэр па вобласці /акрамя Мінскага раёна/ стала 12 тысяч 148. Станоўчая тэндэнцыя, хаця спажыванне звадкаванага газу ў сельскай мясцовасці пакуль значна не зменшыцца.

**— Для паляпшэння ўмоў пражывання ў зонах, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, аблвыканкомам зацверджана праграма будаўніцтва газаправодаў-адводаў прыроднага газу, каб забяспечыць жыхароў экалагічна чыстым палівам. Як вядзецца гэтае будаўніцтва?**

— Справа рухаецца. Завяршаецца газазабеспячэнне калгасаў імя Карла Маркса, імя Гастэлы, "1 Мая", "Праца" Валожынскага раёна. У Смалявіцкім /калгасы імя Леніна, "Шыпяны"/ і Барысаўскім /калгасы "Шлях Леніна", "Чырвоны навасёлец"/ ідзе ўкладка газавых сетак. Вядзецца мантаж газаправода да дзіцячага санаторнага комплексу "Зялёны бор", што на Салігоршчыне. Найбольш актыўна працуюць на аб"ектах падрадчыкі — трэст "Беларусьтрубаправодбуд", канцэрн "Субінвест". Лічым неабходным захаваць існуючую сістэму адзінага заказчыка па газіфікацыі гарадоў і населеных пунктаў, якімі з"яўляюцца ўпраўленні капітальнага будаўніцтва райвыканкомаў. Яны — гаспадары сваёй тэрыторыі, распараджаюцца фінансамі, ведаюць становішча на месцах..

Наша прадпрыемства, падкрэслю яшчэ раз, менавіта будаўніцтвам займаецца мала. Галоўная задача "Мінскаблгаза" — эксплуатацыя газавых сетак, кантроль за тэхнікай бяспекі. Усяго ў калектыве 2 тысячы чалавек. Гэта сціплая лічба, бо з газам працаваць вельмі складана. У кожным раённым цэнтры дзейнічае цэх, трымаем уласную аўтагаспадарку. Мелі б фінансы, пераабсталявалі б піянерскі лагер "Дразды", што ў Стаўбцоўскім раёне, пад аздараўленчы цэнтр, які будзе функцыяніраваць круглы год і дзе маглі б адпачываць і папраўляць здароўе нашы працаўнікі.

**— Прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1993 г. "Аб мерах па забеспячэнню ўзвядзення аб"ектаў інжынернай і сацыяльнай інфраструктур у раёнах індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва". Рэкамендавана выканкомам мясцовых Саветаў дэпутатаў фінансаваць за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў работы па ўзвядзенню інжынерных сетак /у тым ліку і газазабеспячэнне/ да месц масавай індывідуальнай забудовы. Наколькі гэта рэальна?**

— Калі чалавек узводзіць сапраўдны палац, то ў яго, напэўна, знойдуцца грошы і на інжынерныя сеткі. Можна ўсе грошы з мясцовага бюджэту перакінуць на індывідуальныя катэджы. Але што тады застанецца вёскам, дзе старым цяжка купіць балон звадкаванага газу? Аднак загады, як кажуць, не абмяркоўваюць. Мы падлічылі патрэбнасць у капітальных укладаннях для будаўніцтва газаправодаў да раёнаў індывідуальнай забудовы па вобласці /акрамя Мінскага раёна/. На першае сакавіка гэтая лічба наблізілася да двух мільярдаў рублёў. Сёння — чэрвень, цэны павышаюцца амаль штодня, і сума затрат акажацца намнога большая. Мэтазгодна было б знайсці кампраміснае рашэнне, каб частку неабходнай сумы кампенсавалі забудоўшчыкі. Ці, можа, раённы бюджэт папаўняць фінансамі на гэтыя мэты.

*Гутарыла Наталля ШМІДТ.*

## КАНДЫДАТЫ Ў ПРЭЗІДЭНТЫ: ХТО ЁСЦЬ ХТО?

*Многія чытачы "Мінскай праўды" тэлефануюць у рэдакцыю, просячы ўдакладніць тыя ці іншыя звесткі пра кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Прапануем кароткія біяграфічныя даныя ўсіх прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду.*

### ДУБКО Аляксандр Іосіфавіч

Беларус. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў в. Ілава Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Закончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. З 1972 года працуе старшынёй калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэнам «Знак Пашаны», Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, дзвюма медалямі. Герой Сацыялістычнай Працы.

Работа ў мінулым:

1955—1960 — студэнт Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута

1960—1961 — аграном-насеннявод вучгаса «Прынёманскі» Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута

1961—1963 — упраўляючы аддзяленнем вучгаса «Прынёманскі» Гродзенскага сельгасінстытута

1963—1966 — дырэктар вучгаса «Прынёманскі» Гродзенскага сельгасінстытута

1966—1970 — начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Бераставіцкага райвыканкома

1970—1972 — дырэктар Гродзенскага трэста агародніных саўгасаў

1972—ц/ч. — старшыня калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна.

### КЕБІЧ Вячаслаў Францавіч

Беларус. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў в. Канюшэўшчына Валожынскага раёна Мінскай вобласці. З адзнакай закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Кандыдат эканамічных навук, сапраўдны член Міжнароднай інжынернай акадэміі, заслужаны машынабудаўнік рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. З красавіка 1990 г. працуе Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам «Знак Пашаны», трыма медалямі і трыма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Работа ў мінулым:

1953—1958 — студэнт Беларускага політэхнічнага інстытута, г. Мінска

1958—1961 — інжынер-тэхнолаг, старшы інжынер-тэхнолаг Мінскага завода аўтаматычных ліній

1961—1973 — начальнік участка гідрапомпаў, начальнік механічнага цэха, начальнік зборачнага цэха, намеснік галоўнага інжынера Мінскага завода аўтаматычных ліній, галоўны інжынер Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава

1973—1978 — дырэктар Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава

1978—1980 — генеральны дырэктар Мінскага вытворчага аб'яднання па выпуску працяжных і адразных станкоў імя С. М. Кірава

1980—1983 — другі сакратар Мінскага гаркома КПБ

1983—1984 — загадчык аддзела цяжкай прамысловасці ЦК Кампартыі Беларусі, г. Мінск

1984—1985 — другі сакратар Мінскага абкома Кампартыі Беларусі

1985—1990 — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржаўнага планавага камітэта БССР

1990—ц/ч. — Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### ЛУКАШЭНКА Аляксандр Рыгоравіч

Беларус. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў п. Копысь Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Закончыў Магілёўскі педагагічны інстытут і Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Па спецыяльнасці — настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, эканаміст — арганізатар сельскагаспадарчай вытворчасці.

З 1987 года працуе дырэктарам саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Работа ў мінулым:

1971—1975 — студэнт Магілёўскага педінстытута, сакратар камітэта камсамола СШ № 1 г. Шклова

1975—1977 — інструктар палітаддзела Заходняй пагранічнай акругі, г. Брэст, в/ч 2187

1977—1978 — сакратар камітэта камсамола гархарчгандлю, г. Магілёў, інструктар Акцябрскага райвыканкома г. Магілёва

1978—1980 — адказны сакратар раённай арганізацыі таварыства «Веды», г. Шклоў

1980—1982 — намеснік камандзіра роты па палітчасці, в/ч 04104

1982—1983 — намеснік старшыні калгаса «Ударнік» Шклоўскага раёна

1983—1985 — намеснік дырэктара камбіната будматэрыялаў, г. Шклоў

1985—1987 — сакратар парткома калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна

1987— ц/ч. — дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна.

### НОВІКАЎ Васіль Мікалаевіч

Беларус. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў в. Ламачына Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Закончыў Ленінградскі дзяржаўны універсітэт імя А. А. Жданава па спецыяльнасці выкладчык навуковага камунізму, філасофіі і грамадазнаўства. Член КПСС з 1969 года. З лютага 1994 года працуе сакратаром ЦК Партыі камуністаў Беларусі. Мае медаль.

Работа ў мінулым:

1964—1965 — слесар-зборшчык Аршанскага прыборабудаўнічага завода Віцебскай вобласці

1965—1968 — служба ў Савецкай Арміі (Беларуская ваенная акруга)

1968—1969 — слесар-лякальшчык Аршанскага завода лёгкага машынабудавання, слесар-электрамантажнік Ленінградскага вопытнага завода электратэхнічных вырабаў

1969—1974 — студэнт Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Жданава

1974—1977 — асістэнт кафедры, старшы выкладчык кафедры філасофіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, г. Горкі Магілёўскай вобласці

1977—1979 — інструктар арганізацыйнага аддзела, аддзела прапаганды і агітацыі, загадчык кабінета палітасветы, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Горацкага райкома Кампартыі Беларусі Магілёўскай вобласці

1979—1981 — сакратар, другі сакратар Горацкага райкома Кампартыі Беларусі Магілёўскай вобласці

1981—1984 — другі сакратар Горацкага гаркома КПБ

1984 —1989 — першы сакратар Чэрыкаўскага РК КПБ

1989—1991 — памочнік першага сакратара ЦК КПБ, першы намеснік загадчыка арганізацыйнага аддзела ЦК КПБ

1991—02.1994 — намеснік загадчыка аддзела арганізацыйнай і кадравай работы Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў

02.1994 — ц/ч. — сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларусі.

### ПАЗНЯК Зянон Станіслававіч

Беларус. Нарадзіўся ў 1944 г. у м. Суботнікі Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Кандыдат мастацтвазнаўства. З 1983 г. працуе старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Работа ў мінулым:

1962—1964 — загадчык Хілевіцкага сельскага клуба Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці

1964—1967 — рабочы сцэны Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, г. Мінск, фатограф Беларускага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея

1967—1969 — фатограф-афарміцель Мінскага мастацка-вытворчага камбіната

1969—1972 — аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР

1972—1975 — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР

1975—1976 — фатограф Літаратурнага музея імя Янкі Купалы

1976—1983 — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР

1983 — ц/ч. — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН РБ.

### ШУШКЕВІЧ Станіслаў Станіслававіч

Беларус. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў г. Мінску. Закончыў БДУ імя У. І. Леніна. Доктар тэхнічных навук, прафесар. Член-карэспандэнт АН Беларусі.

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Работа ў мінулым:

1951—1956 — студэнт Белдзяржуніверсітэта

1956—1959 — аспірант Інстытута фізікі АН БССР, г. Мінск

1959—1960 — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР, г. Мінск

1960—1961 — старшы інжынер МРЗ, г. Мінск

1961—1967 — старшы інжынер, галоўны інжынер, загадчык сектара лабараторыі ядзернай фізікі БДУ

1967—1969 — прарэктар па навуковай рабоце Мінскага радыётэхнічнага інстытута

1969—1971 — дацэнт кафедры ядзернай фізікі БДУ

1971—1973 — в. а. прафесара, прафесар, в. а. загадчыка кафедры ядзернай фізікі БДУ

1973—1990 — загадчык кафедры язернай фізікі БДУ

1986—1990 — прарэктар па навуковай рабоце БДУ

1990—1991 — першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

1991—1994 — Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

1994 — ц/ч. — дырэктар Цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта

*В.Новиков:*

# ВЕРНУТЬ НАРОДУ ТО, ЧТО У НЕГО ОТНЯЛИ

**— Что вы могли бы добавить к опубликованным сегодня вашим анкетным данным?**

— В семье я был одиннадцатым ребенком. Сами понимаете, трудно приходилось отцу и матери одевать, обувать и кормить нас. С детства пришлось трудиться в колхозе, чтобы помогать отцу — рабочему железной дороги. Потом, когда его не стало, слесарничал на заводах и учился в школе рабочей молодежи. После службы в армии продолжал работать, но, признаюсь, мечтал об учебе, тянуло к гуманитарным наукам... Поступил в одно из престижных учебных заведений — Ленинградский государственный университет. После его окончания три года преподавал в Белсельхозакадемии. Затем — партийная работа.

***Дополнение.** Еще до этой беседы знакомый коллега сказал, что Новиков — скромный человек, не в его правилах выпячивать свое "я", свои заслуги. В чем мне пришлось убедиться лично: ни в ходе этого разговора, ни позже при встречах он не сказал о том, что окончил с отличием школу и университет.*

**— Ваши оппоненты сбивают с толку избирателей, говоря о вас как о "номенклатурщике", "партократе", ищут на вас компромат...**

— Знаю. Я не рвался на партийную работу, но так получилось, что в 77-м году мне предложили пойти инструктором в Горецкий райком партии. Как надо было поступить? Отказаться? Это могло бы сказаться на моей дальнейшей любимой работе.

Пахать приходилось дни и ночи, забывать о выходных и праздниках. Да и не только я один вкалывал на полную катушку, — все мои товарищи тянули лямку... Мы с многим были не согласны, понимали, что все дальше и дальше уходим от социализма, замечали, куда нас толкают. Но на вершине власти давно были перевертыши, перерожденцы... Пробиться наверх, доказать свою правоту было не так просто, как может показаться некоторым сегодня. Такова была система.

Когда началась "знаменитая" перестройка и появилось "новое мышление", когда, по выражению известного реформатора, "процесс пошел", меня, к моему удивлению, избрали первым секретарем Чериковского райкома партии Могилевской области.

У меня, простого сельского парня, сына обыкновенных колхозников, не было, образно говоря, крепкой "волосатой руки", которая продвигала бы меня по служебной лестнице. Своим трудом пробивал дорогу и, не вдаваясь в рассуждения, ни одно из вами названных определений не приемлю. Это — надуманные ярлыки, чтобы унизить нас, коммунистов. Что касается поисков компромата, то зря стараются, безнадежное дело. Совесть моя чиста.

***Отступление.** Когда началось разрушение экономики великой советской державы, основ государственности, подрыв авторитета партии, труженики Чериковского района вскоре заметили организаторские и деловые качества своего лидера. За пять лет производство валовой сельскохозяйственной продукции возросло более чем вдвое, в том числе мяса — в 2,5 раза, молока — на 52%. Развивалась социально-бытовая инфраструктура. И это несмотря на то, что уйму сил, энергии и нервных клеток Новикову приходилось отдавать, чтобы спасать людей от чернобыльской беды.*

**— Вы помните те дни, когда была приостановлена деятельность партии. Одни партбоссы бросили партбилеты, другие — припрятали. А у вас какие чувства и помыслы были?**

— Не думал менять своих убеждений, не испугали угрозы, не бросил соратников и единомышленников. Ни тогда, ни после, ни теперь не скрывал и не скрываю, что я — коммунист. Этим, пожалуй, сказано все.

***Дополнение.** Василий Николаевич Новиков 25 лет состоит в компартии. Он не перекрасился в угоду политической конъюнктуре. Более того, после августовских событий 91-го года активно участвовал в воссоздании Минской областной парторганизации и был избран первым секретарем обкома.*

**— Картину нашей сегодняшней жизни рисуют многие претенденты на высший государственный пост. Что вы могли бы сказать по этому поводу?**

— Надо прекратить разглагольствование о каком-то углублении реформ, продолжении начатого курса, рыночной экономике и т.п. Эти разговоры были уместны в то время, когда наша экономика, хотя и требовала корректировки, была более-менее стабильной, развивалась и давала какой-то эффект.

Теперь же картина резко изменилась. Ее надо спасать. Она отброшена на много лет назад. Заканчивается политика, не обошлось здесь без подсказки и консультаций западных горе-специалистов, окончательного развала народнохозяйственного комплекса. Мы стоим на пороге катастрофы. Это похоже на военную разруху. Не подумайте, что я сгущаю краски. Это реальность. Выход? Он у нас есть, и я буду честно о нем говорить людям, своим избирателям.

***А что в его портфеле? Наведение дисциплины и порядка во всех сферах жизни, в том числе и в экономике; решительная борьба с преступностью и коррупцией; восстановление плановых начал управления экономикой (из кризиса ни одна страна мира стихийно не выходила); усиление роли государства; приостановление грабительской и антинародной приватизации; государственная поддержка промышленного производства и сельского хозяйства; восстановление интеграционных связей с братскими республиками СССР и ряд других мер.***

**— Фронтовики говорят, что самым трудным был момент первым подняться в атаку, потому что на этого бойца приходился весь огонь врага. Что-то сродни сегодняшним коммунистам?**

— Да, мы сейчас, как в войну, идем первыми смело и без оглядки. И огонь ведут оппоненты. Чего только они не выдумывают! Дескать, мы тянем республику в старые времена, жаждем власти; кандидатура от ПКБ — несерьезно, Новикова мало кто знает, он — подставная фигура, и т.п.

**— Что вы на это скажете?**

— Не хочу вступать в полемику с оппонентами, но лишь замечу, что не получится у "демократов" осуществить задуманный сценарий, оболгать партию. Народ начинает прозревать и понимать, кто есть кто, видит, что мы не намерены отступать, что надо быстрее отвергнуть демагогию о рыночной экономике, ваучеризации, дескать, все будут богатыми собственниками. Надо засучив рукава браться за восстановление народного хозяйства, науки, культуры, духовности...

Далее. Во-первых, к старому, понятно, возврата не будет. Во-вторых, мы твердо стоим за социалистический путь развития и у нас много сторонников, что вселяет нам уверенность в победе на выборах. В-третьих, свою кандидатуру я снимать не намерен, не могу игнорировать волю 200 тысяч избирателей, поставивших свои подписи за выдвижение моей кандидатуры.

**— Насколько я знаю, ПКБ выступает против института президентства, а тут — свой кандидат. Как понять это противоречие?**

— Линия нашей партии известна и остается неизменной: Президент для Беларуси — инородное, чужеродное тело. Это шаг назад, к диктатуре, к капитализму. Ведь мы жили 70 лет без президента и успешно осуществляли грандиозные, созидательные планы, народная власть вывела республику на мировой уровень, а по многим показателям мы обошли развитые капиталистические страны.

Опыт ближних и дальних соседей, где введены посты президентов, убеждает нас в том, что это не принесло благополучия, стабильности, а кое-где дошло до кровавых конфликтов.

Но коль так случилось, то пленум ЦК ПКБ принял решение выдвинуть своего кандидата и принять участие в голосовании и одержать победу, я дал согласие на выдвижение моей кандидатуры.

За президентство нам надо бороться, чтобы остановить хаос, развал, вернуть народу то, что у него отняли, нормальную человеческую жизнь и повести общество к подлинной демократии, свободе, народовластию, прогрессу и справедливости. У нас хватит сил, энергии и настойчивости. В этом мы уверены.

*Беседовал А. СМОЛЯНКО.*

# АДПАЧЫЦЬ АД ШКОЛЫ Ў ШКОЛЕ

Летнія канікулы школьнікаў прыносяць радасць і клопаты. Радасць для дзяцей і клопаты для тых, хто павінен арганізаваць для іх карысны, цікавы адпачынак.

Як і ў папярэднія гады, напружанае лета будзе ў лагерах адпачынку "Дубрава", "Зялёны бор" Салігорскага раёна. У іх, паводле папярэдніх падлікаў, павінны адпачыць не менш за 1.600 хлопчыкаў і дзяўчынак.

Але месца ў гэтых лагерах для усіх гарадскіх дзяцей, вядома, не хопіць. Таму ў салігорскіх сярэдніх школах, акрамя тых, дзе будуць рамантавацца памяшканні, таксама адкрыюцца лагеры адпачынку. Будуць дзейнічаць яны і пры цэнтры тэхнічнай творчасці, станцыі юных турыстаў. Непасрэдна ў горадзе за лета арганізавана адпачнуць больш за паўтары тысячы дзяцей.

Гэта не менш, чым у мінулыя гады. Прыемна, што нялёгкае эканамічнае становішча горада не надта ўплывае на клопат аб дзецях.

*/Наш кар./.*

# СПАДЗЕЮЧЫСЯ НА СВАЕ СІЛЫ,

## упэўнена трымаецца на плаве ў моры рыначнай стыхіі калектыў саўгаса-аграфірмы «Стара-Барысаў»

/Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар./

У студзені 1921 года тут была заснавана сельскагаспадарчая школа, рэарганізаваная праз год у сельскагаспадарчы тэхнікум з агранамічным ухілам, а пазней — у заатэхнікум, які на працягу паўтара дзесятка гадоў рыхтаваў кадры спецыялістаў для калгасаў і саўгасаў. У тэхнікуме вучыўся, а пасля працаваў выкладчыкам былы міністр замежных спраў Саюза ССР, а пазней — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Андрэй Андрэевіч Грамыка.

З году ў год развівалася і мацнела калектыўная гаспадарка, павялічваючы аб'ёмы вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. У 1922 годзе першаму механізатару на Барысаўшчыне М.К.Круглiку быў уручаны адзіны на той час у раёне трактар "Пуцілавец". У перадваенны час саўгас быў узорнай гаспадаркай на Барысаўшчыне, неаднаразова ўдзельнічаў у ВДНГ СССР.

Фашысцкія акупанты ператварылі саўгасную сядзібу ў руіны. Знішчылі кароўнік, канюшню, водanapорную вежу, медпункт, больш дзесятка жылых дамоў. Вывезлі са складоў запасы збожжа, а саўгасную жывёлу адправілі ў Германію.

Вось што нагадаў былы галоўны аграном Валянцін Фёдаравіч Левічаў, які пачынаў працаваць у саўгасе ў 1948 годзе: "Бедная была тады гаспадарка. Мелася 300 гектараў зямлі, тры трактары, два сапсаваныя грузавікі, малатарня ды тры сядзібныя жылыя дамы. Збожжа збіралі па 14 цэнтнераў з гектара".

### ...Да дзён сённяшніх

Саўгас-аграфірма "Стара-Барысаў" сёння з'яўляецца высокаразвітой мнагапрофільнай гаспадаркай з прыярытэтным развіццём агародніцтва і малочнай жывёлагадоўлі. Тут наладжана не толькі эфектыўная вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі, а і яе перапрацоўка і рэалізацыя праз свае фірменныя магазіны.

Па памерах гэта параўнальна невялікая прыгарадная гаспадарка, у карыстанні якой 1.662 гектары сельскагаспадарчых угоддзяў, з якіх 1.314 гектараў складае ворыва. А паколькі зямлі не надта многа, тут стараюцца выкарыстоўваць яе з максімальнай аддачай. З некаторых участкаў за сезон знімаюць па два ўраджаі. Каровы і маладняк буйной рагатай жывёлы ўтрымліваюцца на трох жывёлагадоўчых фермах, у сучасных памяшканнях з высокім узроўнем механізацыі. На чатырох гектарах зімовых цяпліц практычна круглы год вырошчваецца свежая гародніна: памідоры, агуркі, зялёная цыбуля. Акрамя цяплічнага камбіната маецца звыш дзесяці тысяч квадратных метраў плёначных цяпліц, дзе таксама вырошчваецца гародніна. Машынна-трактарны парк складае каля ста адзінак аўтатрактарнай тэхнікі. Практычна на працягу ўсяго года працуе кансервавы цэх саўгаса, дзе перапрацоўваецца прадукцыя ўласнай вытворчасці. Кансервуюцца буракі, капуста, памідоры, агуркі, кабачкі, шчаўе, кроп, пятрушка, робіцца яблычны, вішнёвы, бярозавы, маркоўны сокі. За год у цэху выпрацоўваецца да 700 тысяч умоўных слоікаў кансерваў з гародніны, якія прадаюцца ў трох фірменных магазінах.

Рабочыя і спецыялісты гаспадаркі прыкладаюць усе сілы, веды і вопыт для павышэння ўраджайнасці, павелічэння аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі. Летась, напрыклад, тут атрымалі самы высокі за апошнія 15 гадоў валавы збор збожжа — 2.486 тон пры ўраджайнасці каля пяцідзесяці цэнтнераў з гектара. А па ўраджайнасці бульбы — 347 цэнтнераў з гектара — старабарысаўцы выйшлі на перадавыя рубяжы не толькі ў раёне і вобласці, а і ў рэспубліцы.

Праўда, з вытворчасцю малака ў мінулым годзе быў дапушчаны некаторы спад, бо давялося выбракаваць дзве сотні высокапрадуктыўных кароў, хворых лейкозам. Сярэдні ж надой на карову склаў 3.767 кілаграмаў малака, так што ёсць падставы меркаваць, што пасля аднаўлення пагалоўя дапушчанае адставанне будзе перакрыта. Ладзяцца справы і ў агароднікаў гаспадаркі. Так, работніцы цяплічнага камбіната атрымалі летась з кожнага квадратнага метра зямлі па 20,7 кілаграма агуркоў і 3,2 кілаграма памідораў. Сярэдняя ўраджайнасць гародніны адкрытага грунту склала 248 цэнтнераў з гектара, ранняй капусты — 358 цэнтнераў.

Дабіваюцца высокіх вытворчых паказчыкаў тут дзякуючы дакладнай арганізацыі працы, разумнаму прымяненню мер заахвочвання людзей. Дапамагаюць у гэтым багаты вопыт саўгасных спецыялістаў і рабочых, іх добрасумленныя адносіны да працы. На працягу многіх гадоў узначальвала перадавую паляводчую брыгаду Раіса Сямёнаўна Самцова, атрымліваючы самыя высокія ўраджаі бульбы і гародніны не толькі ў гаспадарцы, а і ў раёне. У 80-я гады яна працавала галоўным аграномам саўгаса, а цяпер узначальвае калектыў цяплічнага камбіната. Гэтая працавітая жанчына ўзнагароджана ордэнамі Леніна і "Знак Пашаны".

У канцы сямідзесятых гадоў узначаліў трактарную брыгаду і вывеў яе ў лік перадавых кавалер ордэнаў Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга Мікалай Фёдаравіч Гаўрылей. Ад простага рабочага да галоўнага інжынера гаспадаркі вырас Сяргей Мікалаевіч Мігель, які сёння з'яўляецца адным з вопытнейшых арганізатараў вытворчасці. Можна было б назваць яшчэ дзесяткі перадавых рабочых і спецыялістаў гаспадаркі... Калектыў саўгаса неаднаразова ўзнагароджваўся Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, 76 перадавікоў вытворчасці адзначаны ордэнамі і медалямі, а былы дырэктар саўгаса Ганна Казіміраўна Вяржбіцкая ўдастоена высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы.

### Погляд у будучыню

— Сёння няпроста захаваць нават на ранейшым узроўні сельскагаспадарчую вытворчасць, — зазначае дырэктар саўгаса Георгій Іванавіч Куляшоў. — Падтрымкі "зверху" сяло амаль не адчувае і пакінута сам-насам са сваімі бедамі і праблемамі. Вось таму мы і спадзяёмся толькі на ўласныя сілы. А дапамагае выжыць прадуманая тактыка і гібкі манеўр. Агародніцтва патрабуе затрат, аднак дае магчымасць мець грошы практычна круглы год. Гэтыя грошы, атрыманыя ад рэалізацыі свежай гародніны ці кансерваў уласнай вытворчасці, мы адразу ж пускаем у абарот, закупляем неабходныя матэрыялы, насенне, угнаенні, паліва. А калі ёсць нейкі запас, то ўкладваем у будаўніцтва, для паляпшэння ўмоў працы і быту нашых працаўнікоў. Гэта — адзін з асноўных напрамкаў дзейнасці кіраўніцтва саўгаса з прыцэлам на перспектыву. Мы ўжо сёння думаем аб заўтрашнім дні, таму і стараемся стварыць усе ўмовы для нармальнага жыцця і працы людзей. Дапамагае фірменны гандаль, які дае штомесяц па 250—300 мільёнаў рублёў выручкі.

Вышэй ужо адзначалася, што за апошнія пяць год калектыў саўгаса значна амаладзіўся. І гэта з'яўляецца вынікам мэтанакіраванай работы па развіццю сацкультбыту, паляпшэнню ўмоў працы. Летась уведзены ў эксплуатацыю чацвёрты гектар цяплічнага камбіната, зроблена рэканструкцыя жывёлагадоўчых памяшканняў, пераведзена на газ кацельня. Пасля здачы 36-кватэрнага жылога дома каля чатырох дзесяткаў сем'яў палепшылі свае жыллёвыя ўмовы. У мінулым годзе на будаўніцтва гаспадарка зрасходавала каля мільярда рублёў грошай, а сёлета палавіна гэтай сумы асвоена на будаўніцтве за чатыры месяцы. Заканчваецца ўзвядзенне другой кацельні на газавым паліве, працягваецца будаўніцтва грамадскага цэнтра, дзе размесцяцца кантора, Дом культуры і АТС на 500 нумароў, дабудоўваецца прасторны гараж з пунктам тэхнічнага абслугоўвання, працягваецца рэканструкцыя цялятнікаў.

35 "выпускнікоў" саўгаснага дзіцячага садзіка стануць сёлета першакласнікамі. Расце змена працаўнікам палёў і ферм. А гэта значыць, што ў калектыву саўгаса ёсць будучыня. Летась пачаў дзейнічаць толькі адзін клас саўгаснай музычнай школы, а на стале кіраўніка гаспадаркі ўжо ляжыць каля сотні заяў бацькоў. Думай, дырэктар, шукай выйсце...

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*









***На здымках:** загадчык малочнатаварнай фермы "Бытча" Віталь **Забела** (другі справа) гутарыць з жывёлаводамі Вольгай **Глазавай**, Аляксандрам **Амбросавым**, Аленай **Рыжовай** і Таццянай **Кажамякінай**; гэты 36-кватэрны жылы дом пабудаваны летась на сродкі гаспадаркі; кіраўнік брыгады "Бытча" Мікалай **Набок** з агародніцай Лідзіяй **Самцовай** на плантацыі капусты; загадчыца фірменнага магазіна №1 Таццяна **Дайнека** (злева) разам з прадаўцамі Надзеяй **Грынь** і Алай **Янковай**.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Аналізуе спецыяліст

# ФЕРМЕР ЦІ ГАНДЛЯР

## "Жартаваць" з дзяржавай заўсёды пройгрышна, а ў падатковай справе тым больш

**Фермерства, поруч з дзяржаўнымі, калектыўнымі, кааператыўнымі, індывідуальнымі і іншымі арганізацыямі і прадпрыемствамі, у адпаведнасці з Законам БССР "Аб сялянскай /фермерскай/ гаспадарцы", які быў прыняты ў 1991 годзе, з"яўляецца раўнапраўным звяном сістэмы сельскагаспадарчай вытворчасці ў рэспубліцы. Пасля прыняцця гэтага Закона і ў нашай вобласці фермерства некаторы час актыўна развівалася. На сённяшні дзень налічваецца 650 сялянскіх /фермерскіх/ гаспадарак. Больш за ўсё іх у Валожынскім раёне — 68. У Дзяржынскім — 54, Барысаўскім — 53, Мінскім — 45.**

Галоўным клопатам самастойных гаспадароў напачатку было абзавесціся зямлёй. Яе за гэты час замацавана за фермерскімі гаспадаркамі 11.670 гектараў, або па 18 гектараў у разліку на гаспадарку. Большасць фермераў пры выкананні работ абыходзяцца ўласнымі сіламі. Толькі пятая частка наймае работнікаў.

Летась тэмпы колькаснага росту сялянскіх гаспадарак пайшлі на спад і знізіліся ў два разы. Гэта і не дзіўна. Дзяржава не ўзяла іх пад сваю ахову. Яны, па сутнасці, кінуты на выжыванне. Зямлю дзяржава выдзеліла, а ад аказання дапамогі ў набыцці сельскагаспадарчай тэхнікі ўхілілася. Выкупіць яе па цяперашніх цэнах, без стартавага капіталу фермерам не пад сілу. Таму сёння ў разліку на сто гаспадарак ёсць толькі каля 80 трактароў, 35 грузавых аўтамабіляў, 15 збожжаўборачных камбайнаў, а 15 працэнтаў фермераў увогуле ніякай тэхнікі не маюць. І хіба можна гаварыць пасля ўсяго гэтага аб эфектыўнасці выкарыстання фермерскай зямлі? Некаторыя фермеры летась нават не змаглі засеяць яе, а 30 працэнтаў іх да гэтага часу не абзавяліся жывёлай.

Цэнавае бязмежжа ў прамысловасці вымушае сёння самастойных гаспадароў разам з вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі займацца гандлёва-закупачнай дзейнасцю, бо без такога занятку ва ўмовах пастаяннага росту інфляцыі выжыць проста немагчыма. Але ж усё тут павінна быць у разумных межах. Між тым некаторыя фермеры займаюцца толькі камерцыяй. Выручка ад іншай дзейнасці ў іх складае звыш 90 працэнтаў агульнага тавараабароту, а сельскагаспадарчая вытворчасць на самай справе — толькі прыкрыццё для свабоднага гандлю.

Фермерам з моманту іх рэгістрацыі законам прадастаўлена льгота па ўсіх відах падаткаў на першыя тры гады іх дзейнасці. Таму асобныя з іх звычайна толькі прыкрываюцца фермерствам пры накапленні капіталу. Але яны забылі, што льгота распаўсюджваецца толькі на даходы, атрымліваемыя ад вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, а не ад камерцыі, і ўхіляюцца ад уплаты падаткаў і іншых відаў плацяжоў у бюджэт па гандлёва-закупачнай дзейнасці. І ад гэтага больш губляюць, чым знаходзяць, сутыкаючыся з падатковай службай.

Возьмем фермерскую гаспадарку "Свіслач", што ў Пухавіцкім раёне. Яна пачала працаваць як юрыдычная асоба з 27 лістапада 1991 года. Гаспадару было выдзелена 12,2 гектара зямлі, 0,25 гектара займаў прысядзібны ўчастак. На працягу 1992 — 1993 гадоў фермер атрымаў у банку значную суму крэдыту, які часткова выкарыстаў для папаўнення асноўных і абаротных фондаў. Набыты два трактары, аўтамабіль "МАЗ", сеялкі, іншы сельскагаспадарчы інвентар, абсталяванне, пачата будаўніцтва вяндлярні. А пакуль выручка фермера ад рэалізацыі сельгаспрадукцыі ў 1993 годзе ў агульным тавараабароце заняла толькі крыху больш 1 працэнта. Бухгалтарскі ўлік у 1992 годзе і першым квартале мінулага зусім не вёўся. Ніякіх разлікаў для падатковай інспекцыі па плацяжах і ўнясенню іх у бюджэт не рабілася.

Першыя звесткі па падатках і іншых плацяжах фермер пачаў прадстаўляць толькі з красавіка мінулага года. Ды і то, як паказала дакументальная праверка, не заўсёды дакладныя. Для выканання работ па гаспадарцы прыцягваліся наёмныя рабочыя, аднак падаходны і чарнобыльскі падатак з налічаных сум не браўся. Не ўтрымліваўся падаходны падатак і з сум тых сродкаў, якія былі выкарыстаны для ўласных патрэб. Не адлічваліся плацяжы ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва і ў іншыя пазабюджэтныя фонды. У той жа час адлічэнні ў фонд рэгулявання рознічных цэн рабіліся з пераплатай, бо яны разлічваліся ад выручкі, а не ад валавога даходу, як гэта трэба рабіць пры гандлёва-закупачнай дзейнасці.

Устаноўлены таксама факты, калі пры рэалізацыі тавару за наяўны разлік атрыманая за яго выручка не адлюстроўвалася ва ўліку і не абкладалася падаткам. Летась, напрыклад, фермер прадаў за наяўны разлік 50 тон цукру на суму 14 мільёнаў рублёў. Чысты прыбытак склаў 5,1 мільёна рублёў і быў поўнасцю ўтоены ад падаткаабкладання.

У выніку пералічаных вышэй парушэнняў знізілася паступленне прыбытку, падаткаў і іншых плацяжоў у бюджэт. У сувязі з гэтым па выніках дакументальнай праверкі фермеру давялося заплаціць у бюджэт фінансавых санкцый на агульную суму 140,8 мільёна рублёў. Акрамя таго за дапушчаныя парушэнні па вядзенню бухгалтарскага ўліку і няправільнае налічэнне падаткаў у бюджэт на яго накладзены адміністрацыйны штраф на суму 60 тысяч рублёў. А калі б фермер разлічваўся з бюджэтам своечасова і сумленна, яму давялося б заплаціць усяго толькі 46,6 мільёна рублёў.

Не лепшым чынам пачала сваю дзейнасць і фермерская гаспадарка "Бялынь" Салігорскага раёна. Бухгалтарскі ўлік тут вёўся з парушэннямі. Разноска ў журналах-ордэрах рабілася нясвоечасова. У 1992 годзе фермер заплаціў 141,6 тысячы рублёў падаткаў, а за восем месяцаў мінулага года — 3.299 тысяч рублёў. І вось такая бестурботнасць абышлася гаспадарцы ў 9,3 мільёна рублёў разам са штрафамі і фінансавымі санкцыямі.

Некаторыя фермеры перасталі плаціць падаткі нават з заработнай платы наёмных асоб і асабістых прыбыткаў. Сялянская гаспадарка, якая створана на базе былой падсобнай гаспадаркі БелАЗа Смалявіцкага раёна, напрыклад, на працягу года зняла з разліковага рахунка наяўных грошай для ўласных патрэб 734,7 тысячы рублёў. З гэтай сумы ў разрэзе васьмі месяцаў трэба было ўтрымаць падаходны падатак з грамадзян, якія аказвалі гаспадарцы дапамогу, і пералічыць у бюджэт 79,3 тысячы рублёў. Аднак свабодны селянін увесь гэты час у 1993 годзе ўхіляўся ад уплаты падаткаў. На асабістыя даходы неабходна было налічыць узносы ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ў размеры 15 працэнтаў /гэта 113,6 тысячы рублёў/ і адлічэнні на дашкольныя ўстановы ў суме 38,5 тысячы рублёў. Але такіх разлікаў фермер не зрабіў. Таму па выніках праверкі яму давялося заплаціць 112 тысяч рублёў.

Аналагічныя спагнанні ў бюджэт мелі іншыя фермерскія гаспадаркі. Напрыклад, "Дубравінскае" Смалявіцкага раёна — 263,3 тысячы рублёў, "Кавальчукі" таго ж раёна — 87,1 тысячы рублёў. З сялянскіх гаспадарак Мінскага раёна ўтрымана больш як 80 мільёнаў рублёў.

Думаецца, што гэты артыкул фермеры вобласці ўспрымуць правільна, зробяць з яго неабходныя вывады і будуць своечасова весці разлікі з бюджэтам.

*Уладзімір ПАРХОМЕНКА,*
*галоўны падатковы інспектар дзяржаўнай падатковай інспекцыі па Мінскай вобласці.*




# УЗНАГАРОДЫ ГАВАРЫЦЬ НЕ МОГУЦЬ

**Рознымі шляхамі прайшлі праз вайну савецкія салдаты. Адным давялося мераць уласнымі крокамі тысячы франтавых кіламетраў, другія помсцілі ворагу з партызанскіх пушчаў, а шмат каму прыйшлося далёка ад лініі фронта каваць зброю і тэхніку, якая дапамагла зламаць хрыбетнік фашысцкай навале. І трэба адзначыць, што ўклад такіх "тылавікоў" у агульную Перамогу не менш важкі, чым непасрэдных змагароў з гітлераўскімі захопнікамі.**

**Сярод ужо нешматлікай кагорты ветэранаў, што жывуць у калгасе "Дружба", ёсць прадстаўнік такой неардынарнай прафесіі ваеннага часу.**

Сустракаюся я з Аляксеем Паўлавічам Шыёнкам не надта часта, бо жывём хоць і ў адной гаспадарцы, ды ў розных вёсках. Але пры кожным спатканні ў нас сама сабой гаворка складваецца і пра сённяшняе жыццё, і пра справы даўно мінулых дзён.

Равеснік вядомых кастрычніцкіх падзей далёкага семнаццатага года, ён вырас і выхоўваўся ў Варацішчах, у вёсцы, жыхары якой здаўна славіліся сваёй працавітасцю. На зямлі шчыраваў яго бацька, у якога было пяцёра дзяцей. З зямлёй звязаны лёс і яго сына. Хатняя гаспадарка пры польскай уладзе была асноўнай крыніцай сялянскага дабрабыту. Вось і жылі дзеці пры бацьках, спасцігаючы няхітрую навуку сябраваць з зямлёй-карміцелькай, каб дарыла яна людзям той хлеб надзённы, без якога нікому не абысціся.

Падрасталі Шыёнкавы хлопцы, Андрэй і Лёша, і кожны знаходзіў сабе справу.

Яшчэ ў юнацкія гады вабіла Аляксея хараство тутэйшай прыроды. Чыстае вясковае паветра, водар сасновага бору, прыгажосць квітнеючага бацькавага саду абудзілі ў яго душы безліч дзівосных пачуццяў. Можа, менавіта ў гэты час ён моцна пакахаў прыгожую вясковую дзяўчыну, і Ніна Юльянаўна назаўсёды стала яго вернай спадарожніцай жыцця.

У верасні 1939 года заходнія землі ўвайшлі ў склад тагачаснай БССР. А шостага мая 1941 года Аляксей Шыёнка быў прызваны на вайсковую службу. На ўкраінскай зямлі, непадалёку ад горада Сумы, пачалася яго армейская біяграфія.

Не паспеў малады салдат як след засвоіць вайсковыя статуты, як пачалася вайна. Пасля праходжання курса маладога байца навабранцы былі расфарміраваны па вайсковых падраздзяленнях. Аляксей Паўлавіч атрымаў накіраванне на адзін з ваенных заводаў.

У хуткім часе тэрмінова адабраных вайскоўцаў асобным эшалонам перадыслацыравалі на Урал. Фронту патрэбна была ваенная тэхніка. І там, ва "ўсесаюзнай кузні", А.Шыёнка на сакрэтным аб"екце працаваў ліцейшчыкам па выплаўцы алюмінію. "Усё для фронта, усё для Перамогі" — такі баявы дэвіз быў не толькі ва ўральскіх стваральнікаў баявых танкаў і кулямётаў. "Адзенне" для паветраных бамбардзіроўшчыкаў і знішчальнікаў выраблялі тварцы "лёгкага металу" — нястомныя ліцейшчыкі.

Работа ў цэхах была арганізавана ў дзве змены — па дванаццаць гадзін, без выхадных. І так на працягу амаль пяці гадоў. З завода на фронт нікога не адпраўлялі: трэба было строга выконваць дзяржаўны ваенны заказ па выпуску зброі, танкаў, самалётаў. Таму кожны спецыяліст быў на ўліку.

Калі прыйшла вестка аб перамозе над фашызмам, кіраўніцтва вынесла шчырую падзяку ўсім тварцам ваеннай тэхнікі, бо менавіта яна адыграла найважнейшую ролю ў разгроме ворага.

Пасля вайны Аляксей Шыёнка вярнуўся ў родныя мясціны. Спачатку жыў на хутары, а затым перасяліўся ў вёску. Але што характэрна — і на старым паселішчы, і на вясковым падворку ён закладваў сад, разводзіў пчол, бо ў гэтага чалавека бацькоўская закваска сапраўднага гаспадара. І як тут не ўспомніць народную мудрасць: кожны паважаючы сябе мужчына павінен здзейсніць у жыцці тры добрыя справы — пабудаваць дом, пасадзіць і вырасціць дрэва, выхаваць сабе наследніка — сына.

Што датычыцца дома, дык пабудова Аляксея Шыёнкі — адна з самых дабротных у Варацішчах, а саду, які вырасціў Аляксей Паўлавіч, можа пазайздросціць любы вясковец. І выгадаваў ён не толькі сына, але і дзвюх дачок. А дзеці ў ветэрана выраслі працавітыя, спагадлівыя, чулыя да бацькоў і суседзяў. Часта наведваюць яны свой родны кут, каб дапамагчы ў гаспадарчых справах.

Па 77 гадоў маюць муж і жонка , але трымаюць яшчэ свойскую жывёлу. Было б значна лягчэй ветэрану, калі б кіраўніцтва калгаса аказвала якую-небудзь дапамогу. Сена для каровы пенсіянерам не выдзяляюць, матывуючы тым, што дзялкі буракоў яны не апрацоўваюць. А што можа зрабіць старая жанчына, калі яна інвалід першай групы і ёй самой штодзённа патрэбен догляд? Ды і гаспадар таксама мае патрэбу ў лячэнні. Што і казаць — у наш нялёгкі час надзея ў старых і хворых толькі на сябе ды на сваіх дзяцей: працоўны калектыў застаецца ўбаку. Крыўдна, вядома, што і праз пяцьдзесят гадоў пасля вызвалення Беларусі ад чужынцаў грамадства наша не навучылася шанаваць пераможцаў хоць бы невялікай доляй павагі да іх нялёгкага жыццёвага лёсу. ...

Паказвае Аляксей Паўлавіч свае заслужаныя ўзнагароды, ды толькі маўчаць яны і не даюць адказу на яго справядлівыя пытанні.

*Адам ГРЫНКЕВІЧ.*

## КАЛІ ГУСЬ СВІННІ ТАВАРЫШ

Сёлетняй вясной у лясах Салігоршчыны палявалі італьянцы: адзін тыдзень — шасцёра, другі — адзінаццаць чалавек. І пасля можна было пачуць: маўляў, усё за мяжу прадаём, нават дзікую птушку...

— За дзень палявання кожны з іх выкладваў па дзесяць долараў, — расказвае паляўніцтвазнаўца Салігорскай раённай паляўніча-рыбалоўнай гаспадаркі С.С.Яраш. — У цэлым яны ўпалявалі 426 качак, дзвюх гусей, 19 вальдшнэпаў. Дагаворныя расцэнкі былі такія: за забітага глушака госці павінны заплаціць 470 долараў, за цецерука — 90, гусь — 12, качку — 6, за куліка, вальдшнэпа — па 6 долараў. Вось і лічыце. А большасць нашых паляўнічых таго ж вальдшнэпа ўвогуле за дзічыну не лічаць...

Сапраўды, некалькі забітых невялікіх птушак цягнуць на многія тысячы «зайчыкаў», а гусь па кошту становіцца роўная добраму парсюку. Уся атрыманая валюта пойдзе на стварэнне спрыяльных умоў для размнажэння тых жа птушак, лясной фауны раёна ў цэлым.

Сяргей Савельевіч паведаміў, што за такія грошы італьянцы патрабуюць і адпаведных умоў для палявання. Ім зрабі будан для засады, пастаў туды табурэтку, усё падрыхтуй. Для іх галоўнае — не ўпаляваць, а адпачыць з ружжом у мясцінах, дзе лясы, балоты яшчэ больш-менш захаваліся ў натуральным выглядзе. Паляванне яны не ператвараюць у калектыўныя п"янкі, могуць злёгку пацягваць слабенькае віно ці піва — не больш. І страляюць выдатна, не пакінулі пасля сябе ні аднаго падранка.

З адкрыццём асенняга палявання італьянцы, магчыма, зноў прыедуць на Салігоршчыну.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## «ЧЫРВОНЫ ПЕВЕНЬ» У... ПЯКАРНІ

Днём, неўзабаве пасля перазменкі, успыхнуў пажар у хлебапякарні вёскі Рубяжэвічы. Заўважылі яго адразу, аднак хутка патушыць не ўдалося.

З агнём здолелі справіцца праз паўгадзіны падаспеўшыя па выкліку са Стоўбцаў пажарныя. Пакуль яны пераадольвалі саракакіламетровы шлях ад райцэнтра, з пажарам ваявалі работнікі хлебапякарні і мясцовыя жыхары. Імі і былі выратаваны з полымя дзённая выпечка хлеба і амаль увесь запас мукі. Цалкам згарэў дах будынка, выведзена са строю некаторае абсталяванне.

— Пажар узнік з-за грэбавання правіламі пажарнай бяспекі, — зазначыў дзяржінспектар Стаўбцоўскага раёна па пажарнаму нагляду В.Смальянінаў. — Справа ў тым, што ў паліўнай сістэме топкі былі падцёкі, куды і трапілі іскры пры чыстцы печы. А вадкае паліва ўспыхнула імгненна...

Пакуль Рубяжэвіцкая хлебапякарня не працуе — там рамонт. Хлебабулачныя вырабы завозяцца з райцэнтра.

*Сяргей ГАЛОЎКА.*




### 14 чэрвеня, аўторак

***Беларускае тэлебачанне***

13.30. Навіны.
13.40. "Зорачка". Фільм-канцэрт.
15.20. Для школьнікаў. "Арыенцір".
15.50. Эканаміст.
16.00. Абласныя навіны (Віцебск).
16.15. Планета людзей.
16.50. Навіны.
17.00. "Домік для ўсіх" і іншыя мультфільмы.
17.25. Навіны Бі-бі-сі.
18.00. Мост.
18.30. Роднае слова.
19.00. Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты.
19.45. "Жыццё і смерць капітана Гастэлы".
19.55. "Радок чароўны..."
20.00. Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты.
20.45. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Сенсацыя". Маст.фільм.
22.35. Пяць хвілін на жарты.
22.40 Прэм'ера фільма-спектакля "Тутэйшыя". Частка 2-я.
23.40. Кантакт.
23.45. НІКа.
0.00. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Дынама" (Мінск) - "Днепр" (Магілёў). 2-гі тайм.
0.45. Надвор'е.
0.55. Пад купалам Сусвету.

***Канал "Астанкіна"***

17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.40. "Чароўны свет, ці Сінема".
16.00. Наш музычны клуб.
16.40. Планета. "Рускія адыходзяць". Перадача 1-я.
17.25. Мініяцюра.
17.35. Азбука ўласніка.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. Вагон 03.
18.00. Гадзіна пік
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
18.55. Тэма.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. З першых рук.
20.55. "Безабаронны". Маст.фільм (Францыя).
22.35. Песня-94.
23.30. Бумеранг.
24.00. Прэс-экспрэс.

***Канал "Расія"***

15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
15.20. Тэлегазета.
15.25. Там-там навіны.
15.40. Прыгоды ваўчара.
16.00. Спадчына "Бурана".
16.15. Новая лінія.
16.45. Не быць дыназаўрам.
17.00. Бар'ер.
17.30. Свята кожны дзень.
17.40. Кар'ера. Прымаюць удзел В.Ф.Кебіч і артыст Аляксей Баталаў.
18.25. Тэледэбаты.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Фільм-прэм'ер.
20.40. Маскі-шоу.
21.20. Момант ісціны.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Зорны дождж.

### 15 чэрвеня, серада

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пяць хвілін на жарты.
8.15. "Лясныя казкі"
8.30. Пад купалам Сусвету.
8.40. "Сенсацыя".
9.40. Надвор'е.
9.50. Планета людзей. Частка 1-я.
13.30. Навіны.
13.40. "Адна ноч".
14.30. Відзьма-нявідзьма.
15.30. Здароўе—дзецям.
16.00. Абласныя навіны (Гомель).
16.15. Планета людзей. Частка 2-я.
16.30. "Чорная дама". Д/ф.
16.50. Навіны.
17.00. Мультфільмы.
17.25. Навіны Бі-бі-сі.
18.00. "Вялікая Айчынная".
18.50. "Бярэзінскі запаведнік". Дак.тэлесерыял. 4-я серыя.
19.00. Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты.
19.45. Рэпартаж з выстаўкі тэлекамунікацый.
20.00. Трыбуна кандыдата ў прэзідэнты.
20.45. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Сенсацыя". Маст.фільм.
22.35. Пяць хвілін на жарты.
22.40. "Крок". "Карамболь". Н.П.Машэрава.
23.10. Кантакт.
23.15. НІКа.
23.30. Дзесяць хвілін плюс стагоддзе.
23.40. Міжнародны турнір па сучаснаму пяціборству.
24.00. Надвор'е.
0.10. Пад купалам Сусвету.

***Канал "Астанкіна"***

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.30. Навіны.
8.20. "Яловы яблык".
8.30. "Дзікая ружа".
8.55. Клуб падарожнікаў.
9.45. "Пяшчотнасць да равучага звера". 1-я серыя.
10.50, 0.15. Прэс-экспрэс.
11.20. "Джыўс і Вустэр". Тэлесерыял.
14.25. Прадпрымальнік.
15.05. "Навошта патрэбны міжнародны гандаль?"
15.10. "Прыгоды Тома Соера". Мультфільм.
15.40. Лялька маёй мары.
16.10. Адказы.
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Яшчэ раз аб прыватызацыі.
17.35. Загадка СБ.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. Тэхнадром.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
18.50. Э.Радзінскі расказвае.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Маналог.
20.55. "Д'яблы". Маст.фільм.
23.40. Арт-кур'ер. На конкурсе імя П.І.Чайкоўскага.

***Канал "Расія"***

6.00, 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. Ранішні канцэрт.
8.45. "Санта-Барбара".
9.35. Тэлегазета.
9.40. Сялянскае пытанне.
10.10. Момант ісціны.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. Здорава жывеш.
17.05. Руская віза.
17.35. Свята кожны дзень.
17.45. Панове-таварышы.
18.00. Экспацэнтр прадстаўляе.
18.10. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Газетныя гісторыі.
21.25. Хакей. Кубак Стэнлі. 1-ы перыяд.
22.40. Аўтаімгненне.
22.45. Зоркі гавораць.
22.50. Спартыўная карусель.
22.55. Экран крымінальных паведамленняў.
23.05. Хакей. Кубак Стэнлі. 2-гі і 3-ці перыяды.

### 8-й канал

**14 июня, вторник**

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.20 Мультфильм "Том и Джери".
18.30 Выборы: "Без комментария...".
19.00 Телесериал "Лабиринт правосудия": "Непоказанный фильм".
19.50 Студия "ИНТЭКС". Новости.
20.00 Мультсериал "Вольтрон".
20.30 Телесериал "Морена Клара". 27 серия.
21.20 Диалог. Интервью с кандидатом в президенты Республики Беларусь.
21.50 Приключения... Детективы... Художественный фильм "Одиночка".

**15 июня, среда**

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.20 Журфак БГУ представляет...
18.30 Выборы: "Без комментария...".
19.00 Полицейский сериал "Хилл Стрит Блюз": "Вспоминая счастливое прошлое".
19.50 СОЛТЭК. Новости.
20.00 Мультсериал "Вольтрон".
20.30 Телесериал "Морена Клара". 28 серия.
21.20 Диалог. Интервью с кандидатом в президенты Республики Беларусь.
21.45 Фантастика. Художественный фильм "Скрытый враг - 1".

## Спорт

### ТОЛЬКІ ВОСЬМЫЯ

У нядзелю ў Партугаліі закончыўся чэмпіянат Еўропы па ручному мячу сярод мужчын.

Залатыя ўзнагароды заваявалі гандбалісты Швецыі, якія з лікам 34:21 перамаглі зборную Расіі. Бронзавым прызёрам стала каманда Харватыі.

Беларуская зборная, якая добра пачала чэмпіянат і пасля першых трох матчаў мела чатыры ачкі, прайграла затым камандам Францыі і Харватыі і вымушана была аспрэчваць сёмае месца з гандбалістамі Венгрыі. Але і тут уступіла і стала восьмай камандай у Еўропе, што, дарэчы, дае ёй права праз год выступіць на чэмпіянаце свету.

### СУТКІ НА БЕГ

У венгерскім горадзе Сегед праведзены чэмпіянат Еўропы па сутачнаму бегу.

Дастойна выступілі беларускія звышмарафонцы. Мінчанін Алег Быкаў, пераадолеўшы 220 кіламетраў, з-за траўмы вымушаны быў сысці з дыстанцыі, але і гэтага хапіла, каб заняць дванаццатае месца. 221 кіламетр — такі вынік Анатоля Лапуця і 184 — Уладзіміра Кандыбы.

### ЗАХОЎВАЕ ЛІДЭРСТВА

Набліжаецца да заканчэння чэмпіянат Беларусі па шахматах сярод мужчын (вышэйшая ліга).

Пасля дзевяці тураў лідэрства ўпэўнена захоўвае студэнт Беларускай акадэміі фізічнай культуры і спорту Ю.Шульман. У яго 7,5 ачка і добрыя шанцы заваяваць званне чэмпіёна.

За лідэрам ідуць мінчане Я.Мачалаў, В.Дыдышка і С.Бягун.

### ВЫЙШЛІ Ў ФІНАЛ

Зборная Беларусі па воднаму пола, аснову якой складаюць ватэрпалісты мінскай каманды "Прыёр", прыняла ўдзел у кваліфікацыйным турніры да чэмпіянату Еўропы ў дывізіёне "В", які праходзіў у Даніі.

Выйграўшы ў зборных Бельгіі — 12:9 і Чэхіі — 13:10 і прайграўшы шведам — 7:9 і датчанам — 6:1, наша каманда набрала 4 ачкі і выйшла ў фінал, гульні якога пройдуць у сярэдзіне ліпеня ў Сафіі.

### ТРАДЫЦЫЙНЫ ТУРНІР

Заўтра ў Мінску стартуе традыцыйны міжнародны турнір па сучаснаму пяціборству на прыз Дзяржтэлерадыё Беларусі.

Васемнаццаты раз "рыцары пяці якасцей" збіраюцца ў сталіцы нашай рэспублікі, каб разыграць першынство. Спаборніцтвы пачнуцца 15 чэрвеня на фестывальных дарожках спарткомплексу "Дынама" па вуліцы Даўмана. У гэты ж дзень адбудуцца заплывы ў басейне Беларускай політэхнічнай акадэміі. 16 чэрвеня ўдзельнікі будуць спаборнічаць у стральбе (цір ва Уруччы) і лёгкаатлетычным кросе (вуліца Каліноўскага). Фінішуе турнір у Ратамцы, дзе спартсмены пакажуць свой спрыт у верхавой яздзе.

Вядучыя беларускія пяціборцы нядаўна прынялі ўдзел у чарговым этапе Кубка свету ў Сафіі. Наш Сяргей Коршун набраў 5.512 ачкоў і заняў другое месца.

*(Наш кар.).*

## Гумарэска

# ЗАЦІРКА

*Старшыня сельсавета Сымон Іванавіч Дубок быў не ў гуморы. Новыя чаравікі, за якія адламаў больш ста тысяч рублёў, аказаліся цесныя. Усхапіўся на левай назе крывавы мазоль. А тут яшчэ красворд нервы тузае. «Застопарыўся» старшыня на слове з сямі літар — «традыцыйная сялянская страва». Паколькі запас слоў у яго быў мізэрны, дык акрамя «дранікаў», «бульбы», «агурка» нічога і ў галаву не лезла.*

*Сёння Дубок прыйшоў на работу раней звычайнага. Адчыніў акно ў садок, паслухаў спевы салаўя. Разуўся. Вырашыў дабіць злашчасны красворд. І ў гэты самы момант дзверы адчыніліся. Нясмела, бачком зайшоў стары дзядок Кузьма Квач.*

*— Мне б, Сымон Іванавіч, даведку. Бычок нагу зламаў. Трэба везці ў нарыхтоўчую кантору.*

*Старшыня слухаў адным вухам, біўся над таямнічай сялянскай стравай. Услых мармытаў: «Мо клёцкі, мачанка? Не, не падыходзіць.»*

*— Дык гэта во... Бегаў бычок на поплаве і зламаў нагу. Там каменне нейкае, — парушыў думкі Сымона Іванавіча дзядок.*

*Той, відаць, не ўцяміў што да чаго. Кінуў злосна: «Ідзіце на ФАП, там вам гіпс накладуць».*

*Квач пераступаў з нагі на нагу, не ведаў, што і рабіць. Ужо і не рады быў, што парушыў спакой высокага начальніка, які заняты важнай харчовай праблемай.*

*Дубок нарэшце адарваўся ад красворда.*

*— Скажы мне, дзед, што ты еў, калі бегаў пад стол без штаноў, чым тады цябе частавала маці?*

*Дзядок залыпаў вачыма:*

*— Ды як вам сказаць... Хлеб з мякінай, шчаўе, а калі муку раздабывалі, дык і зацірку варылі.*

*— Пачакай, пачакай... Зацірку? Паглядзім, ці ўцісненца гэтае слоўца. Во! Тоц у тоц! Вось дык Квачык, вось дык мудрэц! Ну, дзякуй табе.*

*Заззяў старшыня, быццам новую зорку на небе адкрыў. Падняўся з-за стала, абуў свае цесныя чаравікі.*

*— Дык чаго ты хочаш, бацька? — лагодна спытаў ён. — Пра якую даведку вярзеш?*

*— Бычка не бяруць на базе без даведкі. Кажуць, мо ўкраў дзе. Дык і прыйшоў да вас.*

*— Не бяруць, кажаш? — раптам твар старшыні стаў сур"ёзны. — І я не дам табе ніякай паперы. Мо і праўда ты спёр дзе-небудзь жывёліну. Нажыцца хочаш. У ціхім балоце чэрці вядуцца.*

*— Сымон Іванавіч! — ледзьве не заплакаў дзядок. — Спытайце ў суседзяў, усе ведаюць майго бычка, з белай плямкай на галаве. Бегаў на поплаве...*

*— Не, бацька, парадак ёсць парадак. Я — асоба афіцыйная.*

*Дзядок некалькі хвілін стаяў як апараны. Гнеў і злосць раптам закіпелі ў ім. Ступіў да старшыні:*

*— Дык аддайце маю «зацірку»! А то ўсёй вёсцы раскажу, што вы тут робіце.*

*— Цішэй, цішэй, бацька, — зноў памякчэў старшыня. — Будзе табе даведка. Вязі свайго бычка хоць у Амерыку.*

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

*З добрым настроем працуе загадчыца Азерскага аддзялення сувязі Уздзенскага раёна Аксана Міхайлаўна* ***Бязмен.*** *Пад яе кіраўніцтвам калектыў з году ў год дабіваецца высокіх паказчыкаў.*

*Цяпер ідзе падпісная кампанія перыядычных выданняў на трэці квартал. Аксана Міхайлаўна ўдзяляе вялікую ўвагу падпісчыкам на нашу абласную газету.*

*Фота Міхаіла БУЛАТА.*

## ■ Гэта цікава

### БЯСПЛАТНАЕ ТАКСІ

Памятаецца, яшчэ задоўга да прыняцця кіраўніцтвам былога Саюза ССР «радыкальных» мер па барацьбе з п"янствам і алкагалізмам старшыня праўлення калгаса «Новае жыццё» Барысаўскага раёна М.Чайкоўскі на адной з раённых нарад выступіў з прапановай аб"явіць тэрыторыю гаспадаркі безалкагольнай зонай. Тады прысутныя ўспрынялі гэтую навацыю як жарт. Пазней, калі ў гаспадарцы пачасціліся крадзяжы калгаснай маёмасці і ўчастковы міліцыянер не мог управіцца з разгулам злачыннасці, па прапанове Мікалая Максімавіча была створана свая, калгасная ахова.

А нядаўна яшчэ адна цікавая ідэя старшыні набыла падтрымку з боку членаў праўлення калгаса. Па яго ініцыятыве вось ужо трэці месяц па цэнтральнай сядзібе гаспадаркі курсіруе «таксі» мясцовага значэння. Згодна з рашэннем праўлення калгаса, «таксіст» Марыя Івановіч штодзённа, акрамя нядзелі, раз"язджае па вуліцах вёскі Аздзяцічы на крытай брызентам і абсталяванай для перавозкі людзей коннай павозцы і развозіць састарэлых і хворых вяскоўцаў па іх патрэбах.

— Вёска Аздзяцічы расцягнулася амаль на чатыры кіламетры, і нямоглым старым, а таксама хворым людзям нялёгка пераадолець такую адлегласць, калі трэба наведацца ў мясцовую ўрачэбную амбулаторыю, магазін, калгасную кантору ці сельсавет. Таму і было прынята рашэнне аб арганізацыі бясплатнага падвозу вяскоўцаў на калгаснай фурманцы, — тлумачыць Мікалай Максімавіч. — Сваёй шматгадовай стараннай працай нашы людзі заслужылі намнога лепшага жыцця, чым сённяшняе.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## ■ Наши консультации

# КРЕДИТЫ ДЛЯ ЖСК

В последние годы жилищно-строительная кооперация переживает не самые лучшие времена. Спрос постоянно возрастает, а самому построить — большая проблема из-за отсутствия собственных средств, а также кредитных ресурсов у Сбербанка. Правительство ищет возможности для оказания помощи членам жилищно-строительных кооперативов. Так, в Минской области в 1993 году введено в эксплуатацию почти 192 тыс.кв.м общей площади домов ЖСК и индивидуальных застройщиков, или 31,6 процента всего жилья, построенного за год. В основном благодаря льготным долгосрочным кредитам (на срок до 40 лет) в сумме 19,2 млрд.рублей. На их обслуживание из республиканского бюджета в прошлом году для Минской области выделено 4,2 млрд.рублей.

Однако из-за нехватки средств не все ЖСК смогли ввести свои дома в эксплуатацию. На 1 января 1994 г. в стадии строительства находилось более 50 домов ЖСК общей площадью свыше 170 тыс.кв.м. Кроме того в прошлом году началось возведение (без получения банковского кредита) еще 16 домов ЖСК общей площадью около 80 тыс.кв.метров.

Подобные факты имели место и в других районах республики. Поэтому правительство и выделило в первом квартале кредиты тем ЖСК, которые задолжали подрядным организациям за работы, выполненные в 1993 году. Затем их получат кооперативы, дома которых начали возводиться до 1 января 1994 г. (по заключенным кредитным договорам) и имеют высокую степень готовности (более 60%). Остальные ЖСК, дома которых начали строиться с привлечением кредитов банка в 1993 году, имеют готовность менее 60% и подлежат вводу в эксплуатацию в текущем году, также будут кредитоваться, но по мере изыскания дополнительных средств. Что касается вновь формируемых ЖСК, то их финансирование может быть осуществлено только после завершения кредитования всех кооперативов, дома которых были начаты до 1 января 1994 г. с привлечением банковского кредита и подлежат вводу в эксплуатацию в текущем году.

Ориентировочная потребность области для завершения строительства ранее начатых домов ЖСК составляет 90,5 млрд.рублей, а с учетом вновь формируемых кооперативов — 123,4 млрд. Из имеющихся в распоряжении Сбербанка средств в первом квартале выделено 11,2 млрд.рублей и на II квартал намечается 28 млрд.

В настоящее время по поручению Президиума Верховного Совета Национальный банк изыскивает дополнительные ресурсы, которые будут выделены Сбербанку для кредитования жилищно-строительных кооперативов и индивидуальных застройщиков. Рассматривается также вопрос об участии в этом деле коммерческих банков.

Для жилищно-строительных кооперативов, дома которых начаты до 1 января 1994 г. с привлечением банковских кредитов, сохраняются льготные условия кредитования и в текущем году. Ссуды выдаются в размере до 95% стоимости строительства на срок до 40 лет с выплатой 10% годовых за пользование ими. Для тех, кто будет начинать строительство в 1994 году, кредиты будут выдаваться в размере до 75% сметной стоимости на срок до 20 лет с выплатой 140% годовых. Малоимущим гражданам, состоящим в льготной очереди, в том числе и молодым семьям, проживающим совместно с родителями, по решению городских и районных Советов могут предоставляться кредиты на вышеуказанных льготных условиях. Для малоимущих граждан, состоящих на квартирном учете на общих основаниях, кредиты предоставляются в размере до 90% стоимости строительства на срок до 20 лет с выплатой 20% годовых.

*Виктор САВИЦКИЙ, главный специалист Управления делами Совета Министров Республики Беларусь.*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе. "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Тыраж 17775. Індэкс 63923. Зак №62.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12